PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1865) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 9 ЛЮТАГА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1992 ГОД

У канцы студзеня г.г. выйшла з друку кніжнае выданне беларускага календара *) на 1992 год. Пра яго ўжо ў канцы снежня мінулага года дапытваліся людзі.

А зараз некалькі слоў пра сам каляндар, ужо 36-ы ў гісторыі БГКТ. Складаецца ён з календарыума і пяці раздзелаў: з жыцця Беласточчыны, з дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з беларускай гісторыі, у крузе сяброў ды з гаспадарчых і не толькі парадаў.

На маю думку, варта перш за ўсё прачытаць размову з Архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савай, артыкулы пра абраднасць на Беласточчыне, замалёўкі з Нараўчанскай гміны, карткі беларускай гісторыі. Напэўна будзе цікава даведацца з інтэрв'ю Аляксандра Баршчэўскага пра беларусаў у Амерыцы і Вялікабрытаніі, а таксама пра здароўе — каму яно не самае цэннае?

Цікавы таксама запісы побач календарыума. У іх адзначаны святы і абрадавыя ўрачыстасці ды народныя прыкметы, звязаныя з рознымі порамі года, а таксама календарыум не-каторых запамінальных датаў з беларускай гісторыі.

Каляндар на 1992 год выдадзены на вельмі добрай паперы. Мае выразны, дасканалы друк, арыгінальную вокладку і добрыя на якасці здымкі Янкі Целушэцкага.

Дык заахвочваю пазнаёміцца са зместам календара, падзяліцца з намі сваімі ўвагамі. Цікавыя з іх надрукуем у „Ніве".

**ЯСЕНЬ**

**) Беларускі каляндар 1992, Выданне Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Рэдактар — Ніна Баршчэўская, праект вокладкі — Уладзіслаў Петрук. Тыраж — 4500 экземпляраў. Аб'ём — 166 старонак. Цана — 10000 зл.*

**Каляндар можна купіць у аддзелах БГКТ у Беластоку, Бельску і Гайнаўцы ды ў рэдакцыі „Нівы".**






*Удзельнікі II Кангрэса БДА.*

## ПАРТЫЯ, АЛЕ ЯКАЯ?

26 студзеня 1992 года ў аўдыторыі Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку прайшоў другі Кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Удзел у ім узялі 54 дэлегаты. Кангрэс працаваў сем гадзін.

Запачаткаваў Кангрэс старшыня Галоўнай рады БДА першай кадэнцыі Сакрат Яновіч, які выступіў з прывітальным словам.

— Мінае другі год, — гаварыў ён, — адкрыта арганізаванай беларускай палітычнай дзейнасці ў пасляваенным Беластоцкім краі. На працягах гісторыі нацыі так кароткі перыяд — гэта ўсяго імгненне, калі думаць катэгорыямі лінеарнага часу. Але падзеі няроўна бягуць. Бываюць гады раўнавартыя дзесяцігоддзям або і вякам. Як і нязначныя на выгляд мясціны, значэнне якіх потым непамерна вырастае (...)

— Арганізацыя — гэта людзі, — працягваў Сакрат Яновіч. — Яна ёсць сумай іх лёсаў, сумай асаблівай, бо датычыць тых, якія бачаць далей за канец свайго носа і шырэй за вузкае кола эгаізму. Аднак жа высноваў для нас не тытальная падпарадкаванасць чалавека ў імя ідэі. У кожным выпадку — гэта яна павінна служыць яму. Як тое адбываецца? А менавіта праз фармаванне гармоніі паміж інтарэсамі адзінкі і грамадства. Ніколі наадварот, бо тады ідэалогія занявольвае, уводзячы дыктат, што канчаецца рэдукцыяй асобы да нулёвасці. Змаганне дэмакратаў за раўнавагу запатрабаванняў грамадзяніна і супольнасці народу ёсць зыходнай пазіцыяй нашага руху, яго філасафічнай тэзай (...)

— Дзейнасць у Беларускім дэмакратычным аб'яднанні, — сказаў на заканчэнне старшыня Галоўнай рады першай кадэнцыі, — мае сэнс ды перспектыву не інакш як свабодная — нявымушаная аніякім імператывам, супярэчным волі і сумленню — экспрэсія прыроджанага чалавеку альтруізму. Да яе трэба даспець духам і сэрцам. І далёка не ўсім яна пад сілу. Не дапускайма ў настроі Аб'яднання дэструктыўных фактараў, прыкладам: ападыктычная нецярпімасць, некрытычны культ лідэраў, манапалізацыя праўды, сяржанцкая паслухмянасць, празмерная сакрэтнасць; словам, усіх заганаў, спараджаючых мафійнасць. Абавязвае максімальная адкрытасць, якая магчымая ў актуальных умовах моманту. Рэалізацыя статута і праграмы — справа не аднаго кіраўніцтва. Вельмі небяспечным ёсць падзел у ёй на ахвярных аж да фанатызму актывістаў і на абыякавую рэшту. Таму лепей хай будзе няшмат сяброў, але затое неяк роўных адзін аднаму.

Старшынёю Кангрэса дэлегаты абралі Валянціна Сельвесюка, яго намеснікам — Антона Мірановіча, а канцлерам — Пятра Юшчука. Затым прайшоў выбар пратакольнай, кангрэсавай і падлікавай камісій. Кангрэсавая камісія, падлічыўшы ўсіх прысутных дэлегатаў, сцвердзіла правамоцнасць зборышча. Такім чынам другі Кангрэс БДА уканстытуяваўся ды пачаў сваю працу.

Першым са справаздачай выступіў каардынатар Краёвай управы БДА Віктар Стахвюк. Справаздача была доўгай і дэталёвай — сваёй формай нагадвала календарыум праведзеных Краёвай управай дзеянняў, пазбаўлены аднак жа спробаў рэфлексіі ды агульных высноваў, так характэрных для палітычнай справаздачы Галоўнай рады. Палітычную справаздачу Галоўнай рады на Кангрэсе не чыталі — дэлегаты атрымалі яе разам з запрашэннем на Кангрэс. Пасля Віктара Стахвюка выступіў старшыня Рэвізійнай камісіі БДА Пятро Германюк, які склаў справаздачу аб фінансавай дзейнасці Аб'яднання за мінулую кадэнцыю. Не сцвердзіўшы недакладнасцяў у бухгалтэрыі Аб'яднання, ні неэтазгоднасці выдаткаў, старшыня Рэвізійнай камісіі законічы сваю справаздачу прапановаю вотуму даверу для старшыні Галоўнай рады, Галоўнай рады, каардынатара Краёвай управы і

**( Працяг на стар. 6 )**




## РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка II**

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Здавалася б, што пануючая царква ў Беларусі павінна быць прыкладам для эміграцыйнай царквы, якая з'яўляецца толькі асколкам або пасланцом той царквы, якая дзейнічае ў Айчыне.

І, несумненна, так трактавалі справу ранейшыя пакаленні беларускай эміграцыі. Пайшлі яны за мадэллю праваслаўнай царквы або касцёла з Беларусі. А ў сувязі з тым, што і царква і касцёл не былі беларускімі, а толькі рускімі і польскімі, папярэднія пакаленні беларускай эміграцыі дэнацыяналізаваліся. Эміграцыйная праваслаўная царква і каталіцкі касцёл іх поўнасцю русіфікавалі або паланізавалі. Гэтая згубная роля была заўважана і зразумела паваенным пакаленнем беларускай эміграцыі, якая пачала сваё нялёгкае бытаванне на Захадзе ад стварэння беларускай нацыянальнай праваслаўнай і уніяцкай царквы.

Упала савецкая сістэма. Узнікла незалежная Рэспубліка Беларусь. Зразумела, што сапраўдную незалежнасць народу, які жыў сотні гадоў у няволі, нельга стварыць адным парламенцкім актам. Сапраўдная незалежнасць стане фактам у выніку доўгатрывалага працэсу. Аднак пачатак зроблены. Пакуль што няма гмаху незалежнасці, але першы камень у яго фундамент закладзены. І гэта ёсць дзень вялікага нацыянальнага свята. Але цяпер наступаюць доўгія будзённыя працоўныя дні, дні агульна-нацыянальнага высілку і ахвярнасці. Адраджэнне народу пойдзе двума калеямі — калеяй адраджэння нацыянальна-духоўнага і нацыянальна-эканамічнага.

Абедзве дамінуючыя ў Беларусі рэлігіі — праваслаўная і каталіцкая — мусяць адыграць у гэтым адраджэнні вядучую ролю. Расказваў мне калісьці Марыян Пецюкевіч, што ў міжваенны перыяд у Заходняй Беларусі, там, дзе былі свядомыя беларусы, праваслаўныя святары і каталіцкія ксяндзы адпраўлялі ўрачыстыя малебны, прысвечаныя гадавінам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, у той самы дзень у розныя гадзіны. Было гэта выклікана тым, каб беларусы-праваслаўныя і беларусы-каталікі маглі ўдзельнічаць у адным і другім набажэнстве. І так яно сапраўды было: беларусы розных вызнанняў, а таксама няверуючыя ішлі грамадой у цэрквы і касцёлы, каб такім чынам падкрэсліць адзінства беларускай нацыі. Ды такая з'ява выступае і ў Амерыцы, і ў Англіі. Ва уніяцкіх цэрквах у Чыкага і ў Лондане бачыў я няраз праваслаўных, якія яднаюцца з уніятамі і каталікамі на нацыянальнай глебе, хаця яны і падзелены рэлігійна.

Веру, што станецца гэта і на Беларусі.

Аднак, такое здзейсніцца толькі тады, калі найвышэйшыя і нізавыя царкоўныя і касцельныя ўлады знойдуцца ў руках сапраўдных сыноў Айчыны, а не эмісараў чужых краін. І таму, калі Рэспубліка Беларусь сапраўды мае стаць нацыянальнай дзяржавай, дык мусіць зрабіць так (ды ў хуткім часе), каб галоўныя рэлігіі на Беларусі, так як гэта ёсць у Расіі і Польшчы, як, зрэшты, і ва ўсім свеце, мелі нацыянальны характар.

Можа ўзнікнуць сумненне, ці не перабольшваю я ролю рэлігіі ў Беларусі, калі вядома, што беларускае грамадства ў сур'ёзнай ступені атэістычнае? Думаю, што не перабольшваю. Справа ў тым, што Беларусь больш абездухоўлена і выступае ў ёй голад духа. Праўда, ведаю некалькі выдатных беларускіх незалежніцкіх дзеячоў, якія гавораць: „Чаго я буду хадзіць у царкву, калі я там нічога не адчуваю". Я вельмі добра разумею людзей такога тыпу, хаця б з тае прычыны, што і сам да такіх належу. Аднак, мусім браць пад увагу вялікія групы людзей, якія пасля наступіўшага палітычнага і духоўна-маральнага краху чуюць у сабе пустэчу і шукаюць нейкай поўні. Беларусь не ёсць Заходняй Германіяй, Францыяй ці Англіяй і не кліча разгубленага чалавека тысячамі атракцыёнаў, якія даюць духоўную або і цялесную раскошу. Перад беларусам у краіне сёння толькі дзве магчымасці: карчма або царква. Трэба зрабіць усё, каб не ішоў ён у кабак, бо там згіне поўнасцю. Свядомая нацыянальна ўлада святароў павінна прыклікаць гэтых людзей у беларускую царкву і беларускі касцёл і пераканаць іх, што Бог, ствараючы беларусаў, даў ім родную мову і што таптанне яе ёсць грахом, скіраваным супраць Бога. Гэту элементарную праўду мусяць напачатку зразумець самі святары, а пасля павінны перадаваць яе народу.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

**********************************************************************************




**99 працэнтаў тэрыторыі Беларусі** падвяргнулася значнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе — заявіў міністр замежных спраў РБ **Пётр Краўчанка**. На працягу шасці гадоў лік захворванняў на рака шчытападобнай залозы ў дзяцей на Беларусі павялічыўся ажно ў 22 разы.

**„Дзеці Чарнобыля — дзецям свету"** — гэта дэвіз выстаўкі дзіцячай творчасці, якая пад канец студзеня была адкрыта ва Улацлаўку. У экспазіцыі знаходзіцца каля ста работ — жывапіс, кераміка, разьба, габелен. Выстаўцы спадарожнічаюць 36 маладых аўтараў, вучняў дзіцячых мастацкіх школ Магілёва і Бабруйска. Будуць яны на працягу трох тыдняў адпачываць ва Улацлаўскім ваяводстве.

**На першай польска-беларускай сустрэчы прадпрымальнікаў у Менску** з'явілася звыш дваццаці фірмаў з Апольскага ваяводства і некалькі з іншых раёнаў Польшчы. Сустрэчы спадарожнічалі выстаўка тавараў і цыкл эканамічных семінараў. **Валеры Бязлюдаў** з Саюза прадпрымальнікаў Беларусі аб перспектывах супрацоўніцтва сказаў наступнае: „Сёння апрача браку валюты, перашкаджаюць нам у гандлі складанасці з перасяканнем граніцы. Але кантакты трэба ўжо зараз наладжваць, каб магчы заняцца канкрэтным супрацоўніцтвам адразу, калі знікнуць гэтыя цяжкасці".

**Пагранічная ярмарка,** арганізаваная ў Гродне Беластоцкай прамыслова-гандлёвай палатай, выклікала вялікае зацікаўленне не толькі гродзенскіх фірмаў. Напрыклад, тканіны „Фастаў" вельмі спадабаліся прадстаўнікам швейнай прамысловасці з Віцебска, а мэблевая фірма з Ваўкавыска запрапанавала суполцы „Мам" бартэрны абмен.

**Выдавецка-рэкламнае агенцтва „Экварыя"** выпусціла даведнік „Białostocki Bedeker'92", у якім апрача інфармацыі аб горадзе знаходзіцца каляндар з каталіцкімі, праваслаўнымі, мусульманскімі і яўрэйскімі святамі.

**„Partner Białoruski" і „Польский партнёр"** — гэта бюлетэні, якія выпускаюць выдавецтва „Дело" з Менска, фірма ІТО і фонд „Плюс" з Беластока. У іх змешчаны інфармацыі пра законы, цэны, курсы валюты, перамены ў гаспадарцы і адрасы фірм зацікаўленых супрацоўніцтвам з замежжам. „Польский партнёр" выдаецца шасцітысячным тыражом і трапляе да беларускіх, украінскіх, літоўскіх і расейскіх прадпрымальнікаў.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**БЕЛАРУСЬ ВЫРАТУЕ „НОВАЯ БЕЛАРУСЬ"**

Пленум Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады звярнуўся да ўсіх дэмакратычных рухаў і партый з заклікам аб'ядноўвацца ў адзіны грамадска-палітычны блок, каб разам дамагацца незалежнасці Рэспублікі, усталёўваць сапраўдныя рыначныя адносіны, стаяць на абароне сацыяльных правоў насельніцтва.

На думку грамадоўцаў, тыя дэмакратычныя сілы, якія дадуць згоду згуртавацца ў блок, павінны забыцца на ўсялякія палітычныя амбіцыі і спыніць на некаторы час міжпартыйныя спрэчкі.

Папярэдняя рабочая назва блока „Новая Беларусь".

**І ТЫ, БРОКЕР!**

Беларускія біржавікі пералічваюць грошы на рахунак дапамогі правядзенню рэферэндуму па пытанню аб адстаўцы Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Асноўная прычына, якая выклікала незадаволенасць бізнесменаў — прыняцце парламентам рабаўніцкага закону аб падаткаабкладанні. Згодна гэтаму дакументу прадпрымальнікі вымушаны адлічыць дзяржаўнай скарбонцы больш 60 працэнтаў ад атрыманага прыбытку.

Такім чынам, у беларускіх дэмакратаў з'явіліся даволі багатыя сатэліты.

З кожным днём шырыцца кола ініцыятараў правядзення рэферэндуму. Зараз у ініцыятыўную групу ўваходзіць 1 тысяча 50 чалавек, якім патрэбна будзе сабраць 350 тысяч подпісаў, неабходных для правядзення рэферэндуму.

**БРАТЫ ПРАВАСЛАЎНЫЯ**

У Рэспубліцы ствараецца Беларускае праваслаўнае брацтва. Згодна інфармацыі аргкамітэта брацтва асноўнымі напрамкамі яго дзейнасці будуць асвета, выданне рэлігійнай беларускамоўнай літаратуры, адраджэнне традыцый беларускай духоўнай музыкі, іканапісаў і храмабудаўніцтва.

**АЙЦА НАДСОНА АБАКРАЛІ**

У Гомелі з аўтамабіля вядомага на Беларусі лонданскага уніяцкага святара Аляксандра Надсона невядомыя злачынцы ўкралі вялікую колькасць аднаразовых шпрыцаў і 50 пакункаў дэфіцытных лекаў ад „чарнобыльскай хваробы" — лейкозу.

Адметна тое, што прымяненне гэтых лекаў дапушчальна толькі ў спалучэнні са спецыяльнымі прэпаратамі, а без іх яны — смяротныя. Таму гомельскія газеты змясцілі папераджальныя аб'явы. Цікава, ці прачытаюць іх зладзеі?

**ДАПАМАЖЫЦЕ, ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ!**

Урад Беларусі звярнуўся ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый з просьбай уключыць нашу Рэспубліку ў лік атрымальнікаў дапамогі ў мэтах развіцця навукі, тэхнікі і вытворчасці.

**МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...**

Новая хваля эканамічных страйкаў гатова зноў ускалыхнуць Беларусь.

У пачатку лютага маюць намер баставаць салігорскія шахцёры, пажарныя, настаўнікі і ўрачы-стаматолагі. Патрабаванні ва ўсіх аднолькавыя — павышэнне заробку ў 2-3 разы.

**УСЁ ВЫШЭЙ, ВЫШЭЙ І ВЫШЭЙ...**

Літаральна па днях расце курс долара на беларускіх рынках. Сярэдняя цана 1 долара 28 студзеня складала 172 рублі. Гэта крыху менш за сярэднюю стыпендыю студэнта інстытута і універсітэта.

**КАМСАМОЛЬЦЫ НЕ ЗДАЮЦЦА**

1-2 лютага ў Пінску мае адбыцца з'езд Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі.

Каля 70 маладых людзей, прыхільнікаў камуністычнай ідэі, намерваецца ўваскрасіць маладзшага брата кампартыі.

**ПАПЕРА СТРАТЭГІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ**

На мяжы банкруцтва апынулася адна з самых папулярных на Беларусі маладзёжных газет „Знамя юности".

З-за недахопу паперы газета вымушана выходзіць нештодзённа, а тры разы на тыдзень. А ў хуткім часе можа ўвогуле спыніць сваё існаванне, калі не ўдасца дамовіцца з расейскімі прадпрыемствамі аб пастаўках паперы. Расейцы згодны пастаўляць паперу толькі на мяса. Таму зараз журналісты шукаюць багатага спонсара.

Між іншым, народны дэпутат Беларусі Сяргей Навумчык накіраваў адкрыты ліст Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі, у якім прапанаваў прэм'еру разбалансаваць так званыя стратэгічныя запасы паперы і прадаць іх беларускім выданням. Па ацэнках Навумчыка запасаў паперы хапіла б на паўгода ўсім буйнейшым беларускім выданням.

Кіраўнік урада на гэту прапанову пакуль ніяк не адрэагаваў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**




* Помнікі культуры – царква ў Парцаве.
* Інтэрв'ю з новым лідэрам БДА.
* Партрэт Мікалая Казлоўскага – умельца з Навін.
* Белавежа ставіць на турызм.
* Студэнцкая старонка „Прысутнасць".

## АЖЫЛА СПАДЧЫНА СТАРОГА УЛАСА

Народжаны 10 (23) сакавіка 1865 г. у беларускай каталіцкай сям'і ў горадзе Валожын беларускі паэт і публіцыст Стары Улас (сапр. Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі) стаяў у свой час ля вытокаў айчыннага культурнага адраджэння. Ужо Максім Багдановіч у сваім аглядзе „Глыбы і слаі" лічыў яго паэтам, не пазбаўленым таленту. І сапраўды. Напісаная ім у 1909 г. паэма „Год беларуса" („Наша ніва", 1910 г.) стала адным з узораў тадышняй і цяперашняй беларускай нацыянальнай эпікі, гутарковасць якой працягвала найлепшыя традыцыі ананімных беларускіх гутарак XIX ст. Сваім тыпалагічным падабенствам яшчэ й цяпер напамінае вядомую ў літоўскай літаратуры паэму Крысціёніса Данелайціса „Чатыры пары года".

І тым не менш паэт-нашанівец ды сябра Янкі Купалы не вытрымаў пазней выкліку часу. Не маючы адпаведнай адукацыі, працуючы спачатку памочнікам кухара ў маёнтку графа Міхала Тышкевіча, а затым кухарам, аб'ездчыкам і ляснічым, нягледзячы на тое, што ўсё жыццё цягнуўся да навукі ды шмат пісаў, у міжваенны перыяд толькі зрэдку друкаваўся ён на старонках мінскай „Вольнай Беларусі" і „Беларусі", віленскага „Беларускага жыцця", „Беларускай думкі", „Роднай страхі", „Новага жыцця" ці „Крыніцы". Пры жыцці (паэт памёр 30 верасня 1939 г.) ягоныя творы ніколі не выходзілі асобным выданнем. І вось, дзякуючы літаратуразнаўчай руплівасці такога вядомага беларускага даследчыка як Вячаслаў Рагойша, у 125-ю гадавіну з дня нараджэння Старога Уласа, якая прайшла ў 1990 годзе, свет пабачыла першая кніжка паэта*).

Ва ўкладзеную, падрыхтаваную, папярэджаную ўступным артыкулам і пракаменціраваную Вячаславам Рагойшам кніжку твораў паэта-самавука ўвайшлі як ягоныя вершы, так і вершаваныя апавяданні, у тым ліку паэма „Год беларуса" ды публіцыстыка. Акрамя гэтага — жыццяпіс Старога Уласа, напісаны ягонай малодшай дачкой Геленай Сівіцкай, якая жыла з ім да ягонай смерці ў 1939 г., а пасля пераехала ў горад Гнезна.

Першыя паэтычныя творы Стары Улас пачаў пісаць у 1892 г. Найбольш раннія з іх змешчаны ў зборніку, а дагэтуль у „Нашай ніве", датаваны 1909 г. У той жа час пачынаецца і ягоная публіцыстычная творчасць. Пісаць на беларускай мове пачаў пад уплывам першай легальнай беларускай газеты „Нашай долі" (1906). З гэтай пары пісаў выключна па-беларуску.

Толькі нешматлікія паэтычныя творы Старога Уласа з'яўляюцца лірычнымі. Большасць з іх — эпічнага складу. Не пагаджаючыся з сялянскай сацыяльнай няроўнасцю і галечай, Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі адначасна далёкі быў ад памкненняў пісьменнікаў-рэвалюцыянераў. Як цалкам слушна заўважае ва ўступе Вячаслаў Рагойша, ягоны светапогляд знаходзіўся на пачатковым этапе сялянскай класавай стыхійнасці, што і знайшло сваё адлюстраванне ў шматлікіх ягоных паэтычных творах. Існуючую тадышнюю рэчаіснасць інтэрпрэтаваў па законах агульначалавечай маралі. У сваёй творчасці не адклікаўся на бягучыя палітычныя падзеі. Горача любіў свой край, беларускае сялянства, захапляўся роднай зямлёй і прыродай. Як піша В. Рагойша: „Стары Улас услаўляў працу як аснову людскога агульнажыцця і чалавечага дабрабыту („Год беларуса", „Не спанатрыў"). З мяккім гумарам, а то і са здзеклівай іроніяй ён выкрываў асобныя людскія заганы: гультайства („Спрытны адказ"), п'янства сялян („Прыгавор"), іх залішнюю даверлівасць („Праўда"), казнакрадства аканомаў, пісараў і іншых дробных службоўцаў („Гдзе бярозы расахаты..."), непатрэбныя сваркі паміж суседзямі, хабарніцтва судовых работнікаў („Суд"), самадурства паноў („Іголка"), скнапнасць ксяндзоў („Легенда і праўда"), ілжывасць папоў („Патрапіла каса на камень")". У адвечнай тэме ўзаемаадносін бацькі — дзеці („З кутка праўды") не падтрымаў наракання бацькоў на дзяцей, не прымаў таксама вайны як сродку вырашэння канфліктаў паміж чалавечымі супольнасцямі („З Новым годам"). Маральная падаснова цікавіла яго таксама ў народных легендах і паданнях. Такі ж падтэкст-выснову склалі апрацоўкі ім жа народных легенд „Кумавы Магілы", „Курган", „Цікавы".

Найбольшую цікавасць , аднак, ва ўсёй паэтычнай спадчыне Старога Уласа выклікае паэма „Год беларуса", якую В. Рагойша лічыць адметным творам не толькі ў ягонай творчасці, але і ва ўсёй беларускай дарэвалюцыйнай паэзіі. Яе галоўнымі дзейнымі асобамі з'яўляюцца беларускі селянін і беларуская прырода.

У „Годзе беларуса" знайшлі адлюстраванне розныя цыклы сялянскай працы: вясновы, летні, асенні і зімовы. Апісаны ў ёй самыя розныя яе віды: ад прадзіва кудзелі, ткання, догляду жывёлы, сенавання, па начлег, грашовыя падзаробкі, а таксама вясковыя ігрышчы і народныя абрады. Паэма напісана чатырохакцэнтным дзесяціскладовікам у пераходнай форме ад сілабікі да сілаба-тонікі жывой народнай сакавітай мовай. Узбагачае чытача духоўна і эстэтычна. А сваімі мастацкімі якасцямі пацвярджае, што паэт найлепш адчуваў сябе ў гэтай форме. Магчыма і таму яна, як і падобныя ёй іншыя вершаваныя апавяданні, неадноечы перадрукоўваліся ў тагачаснай перыёдыцы, галоўным чынам, „Беларускіх календарах".

У перыяд Заходняй Беларусі друкаваліся такія вершы Старога Уласа, як: „Цярплівы нябожчык", „Абяцадла", Спрытны адказ", „Пірог", „Каму што", „Боязна" ці „Апошняе жаданне". На жаль, падчас першай і другой войнаў загінула больш тысячы ягоных паэтычных твораў. Тым большую каштоўнасць уяўляе сабою апублікаваная Вячаславам Рагойшам літаратурная спадчына некалі вядомага беларускага паэта, які ў апошні час амаль што перастаў функцыянаваць у свядомасці беларускага народу.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

*) *Стары Улас, Год беларуса. Вершы. Вершаваныя апавяданні. Публіцыстыка, „Мастацкая літаратура", Мінск 1990, с.с. 174.*

## ПАПРАЎКА

У падрыхтаванай мною публікацыі „Гарадзенскі гуртoк беларускай моладзі" былі дапушчаны рэдакцыяй пэўныя дробныя памылкі. А вось важнейшыя з іх:

1) У маёй прадмове да першай часткі ўспамінаў пра Гарадзенскі гуртoк беларускай моладзі ў 46 (1853) нумары „Нівы" ад 17 лістапада мінулага года на 7 старонцы *Крынскі драматычны гурток* павінен быць надрукаваны з вялікай літары.

2) У першай частцы ўспамінаў Зоські Верас пра Гарадзенскі гуртoк беларускай моладзі („Ніва", н-р 48 (1855) ад 1 снежня мінулага года) замест „(...) пасля Сыльвэстра Ваявудзкага (...)", павінна быць „(...) **пасла** Сыльвэстра Ваявудзкага (...)", замест „А хто нам ідзе?" — „А хто **там** ідзе„ (вядомы ж верш Янкі Купалы!...) на той жа 6 старонцы „Нівы", а на 7 жа — замест „Каней школьнага году (...)", павінна быць „**Канец** школьнага году (...)". Пост скрыптум, вядома, гэта не Зоські Верас, а мой (не хапіла маіх ініцыялаў).

3) У другой частцы ўспамінаў Зоські Верас, надрукаванай у 52 (1859) нумары „Нівы" ад 29 снежня мінулага года не хапіла маіх ініцыялаў пасля маёй устаўкі ў дужках: „(...) (прыгадайма тут, што Адольф Зянюк быў ураджэнцам Сухаволі, што на нашай Дуброўшчыне (...)", частка перадапошняга і апошні сказ надрукаваны чамусьці курсівам, хоць не было гэтага ў маім машынапісе (у друку глядзі стар. 11). Маецца на ўвазе, вядома, два апошнія сказы Зоські Верас.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

************************************************************

## КАМУНІКАТ

**Міністэрства культуры і мастацтва аб фінансавых сродках, перададзеных у 1991 годзе ў карысць беларускай грамадскасці ў Польшчы.**

**I. Беларускае грамадска-культурнае таварыства**

1. Датацыя на выдаванне тыднёвіка „Ніва" **— 578.000.000 зл.**
2. Датацыя на пабудову Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы **— 500.000.000 зл.**
3. Фінансаванне культурнай дзейнасці („Беларускі каляндар 1991", агляд тэатральных калектываў, сустрэчы з ліцэістамі з Менска, прабыванне дэлегацыі Таварыства „Бацькаўшчына", гастролі лялечнага тэатра з Гародні, агляд „Беларуская песня '91", канцэрт „Дзеці дзецям", гастролі дзіцячага калектыву „Лявоны" з Беларусі, выданне беларускага спеўніка, апрацаванага З. Фэдэцкім, фінансаванне дзейнасці культурных асяродкаў БГКТ) **— 200.000.000 зл.**

**Усяго: 1.287.000.000 зл.**

**II. Рэдакцыя квартальніка „Часопіс"**

1. Датацыя на выдаванне „Часопіса" **— 75.000.000 зл.**

**III. Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа"**

1. Фінансаванне выдавецкай дзейнасці (альманах „Гасцінец", Г. Валкавыцкі „Віры. Нататкі рэдактара".) **— 100.000.000 зл.**

**IV. Брацтва праваслаўнай моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі**

1. Датацыя на выдаванне беларускамоўнага бюлетэня „ФОС" **— 8.900.000 зл.**

**V. Праваслаўнае брацтва**

1. Датацыя на выдаванне ўкладыша на беларускай мове ў „Тыгоднік Подляскі — Праваслаўе" **— 50.000.000**

**Разам: 1.520.900.000 зл.**

Прапісcю: адзін мільярд пяцьсот дваццаць мільёнаў дзевяцьсот тысяч злотых.

## АХВЯРЫ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў ВЁСКАХ: ВОЙШКІ І КАНЮКІ

**Тыдзень таму друкавалі мы спісак загінуўшых пад час вайны жыхароў вёскі Рыбалы. Сёння публікуем вынікі пошукаў Лявона Федарука ў Войшках і Канюках.**

**ВОЙШКІ**

У 1940 годзе два жыхары Войшак: **Мірон Алексяюк** (31 год) і **Васіль Валасюк** (каля 30-ці) выехалі ў глыб СССР на працу. Знайшлі яе ў шахтах Караганды, адкуль і не вярнуліся.

**Яна Аляксеюка** (34 гады) і **Кузьму Васілюка** (26 год) — псіхічна хворых — у 1940 годзе ўзялі на лячэнне. Загінулі яны ў невядомых акалічнасцях.

У гады 1940—41 у Чырвоную Армію (чынная служба і запас) былі прызваны: **Хведар Ляшэўскі** (22 гады), **Ян Баўтручук** (каля 30-ці), **Язэп Бручко** (32 гады), **Ільля Іванюк** (30 год), **Ян Ляшэўскі** (30 год), **Мірон Ляшэўскі** (33 гады), **Аляксей Левацюк** (35 год) і **Феафан Мінюк** (34 гады). Язэп Бручко і Ян Ляшэўскі загінулі ў лагеры для палонных н-р 315, астатнія — у невядомых акалічнасцях.

24 чэрвеня 1941 г. ад ваенных дзеянняў загінулі ў вёсцы: **Мікалай Сергяюк** (32 гады) і **Мікалай Шастоўскі** (20 год).

У Нямеччыне загінулі: **Мікалай Баўтручук** (звыш 20-гадовы) — вывезены на прымусовыя работы; **Аляксандр Карнілюк** (37 год) — загінуў у лагеры працы ў Кнышыне (студзень 1944); **Мікалай Казлоўскі** (18 год) — вывезены на прымусовыя работы; **Пётр Ляшэўскі** (22 гады ) — вывезены на прымусовыя работы, затым у Чырвонай Арміі, загінуў у 1945-ым ва Усходняй Прусіі; **Платон Семянюк** (39 год) — вывезены на прымусовыя работы, памёр ад ранаў 27.05.1945 г. ва Усходняй Прусіі як салдат Чырвонай Арміі.

19 чэрвеня 1942 г. немцы правялі пацыфікацыю вёскі. Застрэлілі тады і спалілі разам з хатаю **Тэклю Германюк** (за 40 год) і **Пятра Германюка** (15 год). У будынках Тэклі Германюк жыўцом быў спалены **Ян Сергяюк** (каля 40 год). Пры ўцёках былі тады застрэлены: **Сяргей Крашынскі** (каля 30 год), **Мар'я Рудэчка** (звыш 30-ці), **Уладзімір Сергяюк** (каля 24 год). Уцёк **Андрэй Рудэчка** (38 год), але быў схоплены на пахаванні жонкі, загінуў у невядомых акалічнасцях.

Ад неўзарванага снарада загінуў у 1941 годзе 9-гадовы **Ян Германюк**. 27 ліпеня 1944 г. на сваім полі загінулі **Дзмітры Матвяюк** (44 гады) і **Ян**

( Працяг на стар. 8 )




**Паважаны спадар Янка Сычэўскі!**

У 3 н-ры „Нівы" за гэты год, у артыкуле „Больш кантролю — больш парадку" з жалем прачытаў я Вашае выказванне аб нашай сустрэчы ў будынку пры Варшаўскай 11. Нашай, г.зн. прадстаўнікоў заснавальнага камітэта Звязу беларускай моладзі з прадстаўнікамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

З Вашых слоў адназначна вынікае, што маладыя людзі, якія прадстаўлялі новую беларускую арганізацыю, гэта людзі (тым самым і арганізацыя) зусім безідэйныя і без аніякіх планаў на будучыню. Бо як жа інакш ацаніць людзей, якія прыходзяць з заявай „пабудуйце нам ветрак" і „нічога пра свае планы не кажуць". Думаю, што або Вы нас не зразумелі, або не хацелі зразумець.

Ніхто ад Вас не выцягваў на сілу ветрака. Гэта была з нашага боку толькі адна з прапаноў — прапаноў супрацоўніцтва. Мы тады выступалі ўсяго толькі ад імя заснавальнага камітэта і аб ніякіх канкрэтах не магло быць нават мовы.

Вы тады, таксама як і ў артыкуле М. Ваўранюка, наракалі на брак зацікаўлення беларускім таварыствам з боку маладых людзей. Мы Вам толькі падказвалі, якія могуць быць некаторыя дарогі выхаду з такой прыкрай сітуацыі. На тое, каб гаварыць, што між намі прорва, думаю, яшчэ зарана.

ЗБМ хоча, цераз нядоўгі час, прадставіць планы свае дзейнасці на 1992 год, разам з арыентацыйным коштам мерапрыемстваў. У сваю чаргу, чакаем прапаноў ад БГКТ, не толькі фінансавых, але і іншых, якія будуць вартыя маладых беларусаў.

Але нельга з аднаго боку плакаць, наракаць на брак зацікаўлення арганізацыяй моладзі, а з другога боку нічога ёй не прапанаваць.

На канец маю ціхую надзею, што адносіны між нашымі арганізацыямі не будуць у нічым падобныя на адносіны між БГКТ і БДА, або між БГКТ і БАСам.

**З паважаннем**
**Старшыня**
**Звязу беларускай моладзі**

**МАРКО ЗАБРОЦКІ**




**Надзея**, год 31, працую ў школе педагогам. Знешнасць прыемная. Хачу пазнаёміцца з прыстойным мужчынам 35—45 гадоў, які пражывае ў Польшчы.

Лісты просім кіраваць на адрас рэдакцыі з паметкай „Для Надзеі".




# ДЗЕЦЯМ НА БЕЛАРУСІ

Пра бельскую фірму „Амега" ў „Ніве" ўжо пісалася няраз. Займаецца яна гандлем паміж нашым рэгіёнам і Беларуссю. Найважнейшае месца ў гандлёвых абаротах фірмы належыцца збожжу і паліву. Збожжа скупляецца ў Польшчы і абменьваецца на Беларусі за паліва.

Фірма „Амега" яшчэ маладая — узнікла ў сярэдзіне мінулага года, — але ўжо дабілася не малых дасягненняў (на зайздрасць іншым капіталістам). На сённяшні дзень прадае яна на ўсход найбольш збожжа ў цэлым паўночна-ўсходнім рэгіёне Польшчы. Дырэктар „Амегі" Мірaслаў Целушэцкі кажа, што і ва ўсёй краіне ніхто з імі не зраўняецца. Сваёй гандлёвай дзейнасцю фірма раскручвае кан'юнктуру для гаспадаркі рэгіёна, не толькі сельскай, лічыць спадар Целушэцкі. Апошнім часам завязалася супрацоўніцтва з некаторымі фабрыкамі, напрыклад, абутковай у Сямятычах, швейнай у Беластоку.


*Валянцін Сельвясюк.*

У Бельск прыязджала польскае тэлебачанне, рабіла здымкі ў сядзібе фірмы. Пішуць пра яе таксама цэнтральныя газеты.

10 студзеня гэтага года кіраўнікі „Амегі" Міраслаў Целушэцкі і Валянцін Сельвясюк правялі на Гродзеншчыне дабрачынную акцыю. Завезлі ніяк Гродзенскаму чырвонаму крыжу фургон ласункаў — салодкасці, паўднёвыя фрукты — для тамашніх дзіцячых дамоў.

— Каб ты бачыў, колькі радасці было ў дзяцей, калі яны атрымалі пачкі з бананамі, памаранчыкамі, — кажа мне Міраслаў Целушэцкі, — гэта нават цяжка ўявіць сабе.

Мне не цяжка, думаю сабе, бо скупыя васьмідзесятыя ў Польшчы я дасканала памятаю. (Ужо хапала гадоў, каб


*Міраслаў Целушэцкі.*

зарэгістраваць у галаве тое, што тады дзеялася, але было мне якраз столькі, што шчэ хацелася і бананаў, і памаранчыкаў).

Пабачыўшы, колькі радасці можна даць дзецям такім падарункам, кіраўніцтва фірмы „Амега" плануе такія дабрачынныя акцыі і ў будучыні. Цяпер хочуць паехаць пад Мазыр і завезці свае салодкія падарункі дзецям, што жывуць на зямлі, якая цяпер мае сумнавядомую назву: Чарнобыльская зона.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**ФОТА АЎТАРА**

***

# З дзённікаў С.Яновіча

**30-05-1988 г.**

Ад Антося: здымкі мітынгу „Талакі" на пляцы Волі ў Менску 20 сакавіка ў абарону Замчышча і помнікаў Верхняга Места, дэкларацыя Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства, „Двуязычие и бюрократизм" — публікацыя З.Пазьняка ў эстонскім (?) час. „Радуга" н-р 4, „Хто яны, „нефармалы"?" Віктара Шніпа ў „Беларусі", „Пазіцыя ці поза?" з „Вячэрняга Мінска" ( на бел. м.) ад 5 красавіка, „Позиция или поза?" ( скандал з будоваю мэтро) з „Вечернего Минска" ад 26 сакавіка, „Пора обьединить усилия" (пра тое ж, але спакойна) з „В.М." ад 14.V., і яшчэ ад 12.V.

**02-06-1988 г.**

Ад учора — у Беластоку Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Карпюк, Юрка Голуб. Запрошаныя Аддзелам культуры, ваяводскім. У сувязі з прэзентацыяй альманаха „Краю мой — Нёман". Як бы дзеля пачатку літаратурнага супрацоўніцтва паміж Беластокам і Гроднам.

Запрасіў іх да сябе. Абмен кніжнымі падарункамі. Набралі ўсяго столькі, што дай ім Бог, каб не скончылася гэта скандалам у савецкай мытніцы! Асабліва — Данута, гэтая беларуская палячка з-пад Ліды, якая сардэчна апякуецца патрыятычнай „Паходняй" у Гародні. Я ўжо застаўся без анічога, нават „Біблію" і „Новы Запавет" давялося мне не пашкадаваць аддаць...

Прывезлі „Гродненскую правду" ад 21 траўня з падборкай твораў „Белавежы": Чыквіна, Варанецкага, Шатыловіча, Барскага, Баены, Бурша, Шостак, Швэда... Мае мініяцюры перадалі паводле Miniatures by Sakrat Janovič („Сярэбранага яздака" не маюць). Усё пад XXX-годдзе Аб'яднання. Кажуць: гэтая руская газетка ўпершыню змясціла аж столькі беларускага, і ўпершыню — беларускую прозу!

Прэзентацыю ж наладзіла Ваяводская бібліятэка так, каб завельмі ўданай не была. Сыйшлося трохі „кацапаў" і пару палякаў, болей па прымусу службы. Я сказаў уводнае слова і паставіў першае пытанне: чаму палякі ў БССР не маюць хаця б таго, што беларусы ў ПНР?! Гэта выклікала паніку сярод беластоцкіх афіцыйнікаў! Яны думаюць, што гэта мой экскурс супроць савецкіх гасцей. Не ведаюць, што папрасіў мяне менавіта Карпюк, каб я выступіў з нечым такім, што павінна дапамагчы яму ў змаганні за добрае імя беларусаў у вачах гродзенскіх палякаў, а беластоцкім беларусам — разбіваць сцяну варожасці да іх з боку большаснага, польскага, грамадства. Слушна! І я, з прыемным здзіўленнем, выканаў Карпюковую просьбу.

**03-06-1988 г.**

На бяседзе — 02.06. — у ГП БГКТ. Данута недалюблівае Карпюка, бо ён... лаханда? Расказала яна пра „Паходню" і, наогул, пра змаганне маладых за **беларускую** Беларусь так, што цяжка было стрымліваць слёзы!!! Я даўно так не плакаў. Нават нашы цынікі — Зянюкі папурыліся.

Маладыя пакутніцы і пакутнікі здратаванай Беларусі, з якіх, быццам з першых хрысціян, кпіць і рагоча абмаскаленая чэрня. Яны яшчэ пачынаюць жыць і гэта да іх належыць будучыня. Тым болей, што — гарадскія яны, без халернай вясковай зацюканасці. Без комплексаў, псіхакультурнай хіласці.

Мы ім ужо не прыклад змагання. Яны нас перараслі за адну ўсяго вясну. Мы тут робімся малымі і штораз меншым

**05-06-1988 г.**

Изуродованное лицо белорусской культуры... На свяце трыццацігоддзя „Белавежы". Болей, чым скромным; на мяжы бесталачы. Адначасна ў нечым яно сапраўднае, адэкватнае фактычнаму стану Аб'яднання, ад якога адно ўжо цень... Адзінае, што адбылося на сур'ёзным узроўні — гэта ўручэнне ўладамі калектыўнае адзнакі: „Заслужаны для Беласточчыны".

Трымціць у паветры ад абыякавасці ды бязвыйсця. Хто наогул з'явіўся з „белавежцаў"? Шэсць-сем: Ваўкавыцкі, Чыквін, Швэд, Рудчык (?), Артымовічанка, Петручук, Анішэўская. Даклад Швэда — узор прымітывізму. Дэкламацыі ліцэістак — часам не зразумець у іхным польскім акцэнце. Зянюк балбатаў беларуска-польска-рускім жаргонам.

*(Працяг будзе)*

Тлумачэнні:

*— Антося — спомнены ўжо Антось Міранові́ч, тады заядлы нацыянальны актывіст, які з часам аціх і паглыбіўся ў навуку; доктар гісторы;*

*— З.Пазьняка — доктар Зянон Пазьняк, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, лідэр антыкамуністычнай апазіцыі;*

*— Данута Бічэль-Загнетава, выдатная беларуская паэтэса, арганізатар апазіцыйнага руху ў Гародні;*

*— Аляксей Карпюк, Юрка Голуб — беларускія пісьменнікі з Гародні; Карпюк, родам са Страшава ля Гарадка, у нямецкую акупацыю ўславіўся бравурнымі акцыямі, камандаваў атрадам імя Кастуся Каліноўскага; кавалер ордэна Віртуці Мілітары;*

*— „Паходняй" — „Паходня", адраджэнскі клуб у Гародні, ад якога пачалася там шырокая апазіцыйная дзейнасць супроць каланізацыі;*

*— Зянюк — Янка Зянюк, быў сакратар ГП БГКТ, потым: Намеснік старшыні;*

*— Замчышча і Верхняе Места — гістарычная частка Менска, руйнаваная будаўніцтвам мэтро.*

# ПАРТЫЯ, АЛЕ ЯКАЯ?

( Працяг са стар. 1 )

Краёвай управы.

Пасля кароткага перапынку з прывітаннямі Кангрэсу выступілі запрошаныя госці: Алесь Шут (дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, апазіцыя) і Сяргей Мурог (сакратар Управы Беларускага народнага фронту „Адраджэнне"). Затым пачалася дыскусія над заслуханымі справаздачамі. Узначаліў яе Яўген Вапа з Бельска-Падляшскага, які крытычна выказаўся пра справаздачу каардынатара Краёвай управы. Роля Краёвай управы, гаварыў ён, перабольшаная, перабольшаны таксама яе дасягненні — калі лічыць дасягненнем выбарчую перамогу ў Гайнаўскай гміне ў час самаўрадавых выбараў, дык дзе беларускі войт у той жа гміне? У справаздачы каардынатара, дадаў яшчэ Яўген Вапа, бракуе ацэнкі, якою павінна быць роля Краёвай управы ў будучыні. Віктар Стахвюк адказаў, што наколькі Управа з'яўляецца выканаўчым органам, дык не да яе належыць выпрацоўка накірункаў дзейнасці — Краёвую ўправу складаюць людзі дзеяння, роля якіх заключаецца ў арганізацыі выбараў, ці яшчэ якіх акцыяў. Пералік дзейнасці Краёвай управы дадзены якраз у справаздачы, закончыў Віктар Стахвюк. Што датычыць выбарчых дасягненняў, дадам тут ад сябе, дык у гэтай справе няма і доўга яшчэ не будзе адназначнасці. Калі ўзяць пад увагу, што шмат якія людзі ўвайшлі ў гмінныя рады са спісаў Беларускага выбарчага камітэта, дык можна лічыць гэта намінальным дасягненнем, але адначасна ж нельга адмовіць рацыі сцвярджэнню, што гэтыя радныя не праявіліся ў характары актыўных дзеячаў Аб'яднання.

У дыскусіі закранаўся шырокі дыяпазон розных па ступені дэталёвасці і важнасці спраў: ад графічных эмблемаў Аб'яднання пачынаючы, цераз тое, якія рабіць захады, каб зямля




*Прэзідыум Кангрэса.*

апынулася ў распараджэнні гміны, а на недарэчнасці канчаючы (прыкладам, пытанне, чаму Бог не любіць беларускай мовы). Адвесці належную ўсім гэтым справам увагу — тэма на асобны артыкул. Лічу, аднак, патрэбным запыніцца тут над адным матывам дыскусіі, які даволі хутка выкрышталізаваўся і, як ні глядзець, здамінаваў яе. Якою мае быць формула Аб'яднання?

Здавалася б, што Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, укапстытуяваўшыся 10 лютага 1990 года, ясна сябе акрэсліла. БДА — гэта згуртаванне

# ЦІШКА, САБАКА І ПАЛІЦЫЯ

**(На аснове праўдзівага)**

Цішку вельмі не спалася гэтае начы. Нягледзячы на вялікую стому пасля поўнага клопату гаспадарскага дня, Цішка толькі кідаўся ў пасцелі. Час ад часу сягаў ён па папяросу. Было ўжо напэўна далёка за поўнач, калі пачало яго марыць...

...зразу сэрца скочыла Цішку ў горла, задрыжаў на ўсім целе, а недакурак прыпёк яму губы. Зараз аднак ачмухаўся, з пасцелі скочыў да акна. Стаў свяціць ліхтаром на панадворак. Там жа, пад хлявом бушавалі, счапіўшыся, два сабакі. Іхні лай было, мусіць, чуваць у самой вёсцы (Цішка жыў на хутары). Цішка накінуў нешта на плечы, уступіў у боты і падаўся хутка на панадворак. Захапіў па дарозе дубінку. Раз-два прагнаў ад свае сукі таго другога.

Гэта яшчэ не канец гісторыі. Чужы сабака двойчы вяртаўся тае начы, перабіваючы Цішку сон. Цішка пазнаў, што сабака належыць да Клёпкі, самага злаславага гаспадара ў вёсцы.

Раніцай Цішка стаў аглядаць панадворак. Хаця агароджа была амаль новай, то Цішка знайшоў адну гнілую штахету, якую той сабака падламаў ад зямлі і такім спосабам працінуўся на панадворак, да сучкі. Зразу Цішку падумалася, што трэба тую штахету папраўіць, але не стаў гэтага рабіць, бо прыйшла яму ў голаў адна думка... Хітра ўсміхаючыся, падаўся ў сваю слёсарскую майстэрню. Там знайшоў ладны кавалак дроту, зрабіў з яго пятлю, якую часам на козы ў лесе ставяць, ды прыстасобіў яе вакол тае дзіры ў плоце. Калі дурны які, дык пападзецца, падумаў сабе Цішка, пасля чаго яшчэ раз упэўніўся, што пятля добра замацавана і не сарвецца калі што.

Клёпкаў сабака папаўся яшчэ таго самага дня, на адвячорку. Усё было падрыхтаванае — калі толькі Цішка пачуў, што нешта пішчыць каля плота, узяў нож, якім свіней разбіраюць, ды выйшаў з хаты. Адвязаў пятлю ад стаўба ды падцягнуў яе ўгару, завязаў за штахеты. Сабака вісеў, перабіраючы нагамі. Цішка левою рукою стаў перабіраць час нейкі паміж заднімі яго нагамі, а потым праваю.. цях! і абрэзаў яму яйцы. Адпусціў сабаку.

На другі дзень, у малачарні, стаў Цішка таму-сяму хваліцца, як то ён расправіўся з Клёпкавым нахабнікам. Мусіў пахваліцца — такі ўжо меў характар. Дайшло гэта да самога Клёпкі. Яшчэ да поўдня ў вёску з'явілася паліцыя з гміны. Пачалося следства. Пасля падрабязных агледзін сабакі, следчы заявіў: „Нічога яму не бэндзе, кастрацыя профэсійне зробёна". Такі быў канец следства, але вядома ж, не нашай гісторыі.

Праз пару дзён пасля гэтага здарэння Цішка паехаў трактарам у суседнюю вёску дапамагчы сваяку ў працы. Вяртаўся на змроку, крышку п'янаваты — вядома ж, сваяк даў павячэраць і паставіў буталь. На дарозе перапыніў Цішку той самы паліцыянт, што даследаваў сабаку. Адабраў права язды. Людзі ў вёсцы казалі, што паліцыянт гадзін шэсць вартаваў, каб злавіць, як Цішка будзе ехаць п'янаватым.

Гады два да таго, як здарылася гэтая гісторыя, у вёсцы цыганы зрабілі некалькі ўзломаў. Пакрыўджаныя таксама званілі тады ў гміну па паліцыю — чакалі яе дні тры. Цяпер людзі ў той жа вёсцы гавораць, што ў краіне ідзе да лепшага, бо нават у такой справе, як сабачыя яйцы, паліцыя вокамгненна прыязджае і гатовая вартаваць па шэсць гадзін.

**АЛЕСЬ ВАСІЛЮК**

### НАЙСТАРЭЙШЫ У ПОЛЬШЧЫ

29 снежня 1921 г. у Міністэрстве земляробства і грамадскіх даброт у Варшаве адбылося пасяджэнне, на якім вырашана стварыць у Белавежскай пушчы запаведнік накшталт парку натуры. Неўзабаве была выдзелена адпаведная плошча, прызнаючаю яе асобным лясніцтвам, з назвай „Запаведнік" („Rezerwat"), якая праз пару гадоў пераўтварылася ў надлясніцтва. У 1932 г. „Запаведнік" прызналі асаблівай адміністрацыйнай адзінкай і пачалі называць „Нацыянальным паркам у Белавежы". У 1947 г. Рада Міністраў прысвоіла гэтаму аб'екту поўныя прававыя асновы і адміністрацыйную незалежнасць, а таксама актуальную назву — Белавежскі нацыянальны парк. За пачатак БНП прынята прызнаваць 1921 год.

У перадапошні дзень мінулага года ў Белавежы была наладжана скромная ўрачыстасць у гонар 70-годдзя Белавежскага нацыянальнага парку. З дакладамі аб гісторыі і будучыні парку выступілі дырэктар БНП праф. Аляксандр У. Сакалоўскі і старшыня Навуковай рады БНП праф. Януш Б. Фалінскі. Аб многаспектным значэнні парку ў жыцці польскай дзяржавы гаварыў дырэктар Дзяржаўнага праўлення нацыянальных паркаў д-р Ян Врубэль. На рукі дырэктара БНП складзены віншавальныя лісты ад Ваяводы беластоцкага і працаўнікоў Беларускага нацыянальнага парку „Белавежская пушча" (уручыў сам дырэктар Сяргей Балюк; ён жа перадаў дырэктару Сакалоўскаму ў дары вялікую драўляную статую зубра).

Потым працаўнікі БНП супольна са шматлікімі запрошанымі госцьмі прайшліся да ўваходнай брамы, ля якой знаходзяцца мемарыяльныя валуны з прозвішчамі чатырох найвыдатнейшых стваральнікаў парку — У. Шафэра, Ю. Пачоскага, Я. Е. Карпінскага і А. Дэнэя. Тут былі складзены кветкі. Паслухаўшы шум ветру ў кронах дрэў, па што звярнуў увагу дырэктар Сакалоўскі (я яго раней і не падазраваў у паэтычных адчуваннях), усе вярнуліся ў Палацовы парк, затым завіталі ў Прыродазнаўчы музей, дзе была наладжана выстаўка 25-ці здымкаў, зробленых у міжваенны перыяд памёршым у 1965 г. заслужаным дырэктарам БНП праф. Янам Ежы Карпінскім. Выстаўка гэта будзе неўзабаве паўторана ў трохі больш элегантнай форме.

У канцы лютага або ў пачатку сакавіка г.г. у Белавежы адбудзецца яшчэ ўрачыстае пасяджэнне Навуковай рады, прысвечанае юбілею найстарэйшага ў Польшчы нацыянальнага парку.

**ПЁТР БАЙКО**

### МАЛАДЗЁЖНАЯ ТУРБАЗА

Гміна Дубічы-Царкоўныя стала турыстычным раёнам. Па распараджэнні Начальніка гміны ад 1 студзеня 1989 года была створана сезонная турыстычная база пры Пачатковай школе ў Дубічах-Царкоўных з мэтай абслугоўвання турыстычных паходаў на шляху між Бугам і Нарвай, які вядзе з Чартаева праз Драгічын, Сутна, Дубічы-Царкоўныя, Гайнаўку, Тэраміскі, Нараўку, Нарву ў сталіцу ваяводства — Беласток. Турбаза ПТСМ (Polskie Towarzystwo Schronisk Młodzieżowych) працуе з 5 ліпеня па 25 жніўня і прадўяўляе начлегі для 30 чалавек. Знаходзіцца яна ў старым школьным драўляным будынку насупраць царквы.

На працягу пяці гадоў з паслуг турбазы скарысталі 2002 чалавекі (усяго былі дадзены 2042 начлегі). Найчасцей наведваліся звышдвaццаціасабовыя групы, арганізаваныя настаўнікамі, і прабывалі на базе толькі адну ноч. Адна з груп прабывала нават пяць сутак.

Найбольш юных турыстаў трапіла да нас з Беластоцкага і Катавіцкага ваяводстваў. Зусім не было турыстаў з дзесяці паўднёва-ўсходніх ваяводстваў.

Маладзёжная турбаза была ў сярэднім адкрыта 45 дзён у год. Гартаючы хроніку базы, можна меркаваць, што найбольш было тут груп, якія ўдзельнічалі ў турыстычных паходах. Некаторыя займаліся веласіпеднай турыстыкай. У хроніцы многа сімпатычных запісаў, а нават энтузіястычны верш пары турыстаў з Кельцаў, які ўсхваляе добрыя ўмовы і прыемны настрой. А ўсё гэта з'яўляецца заслугай Надзеі Несцярук — кіраўнічкі турбазы ПТСМ у Дубічах-Царкоўных.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

людзей адзінае волі, мэтаю якіх дзеянне ў карысць беларускай меншасці ў Польшчы. Сяброўства ў БДА набывае кожны, хто ў адвольнай форме прызнае статут і праграму Аб'яднання, з тою, аднак, агаворкай, што нельга належаць да іншай партыі. Здавалася б, усё тут ясней ясната. А ўсё-ткі не ўсім яшчэ гэткая канцэпцыя зразумелая.

Чаму пастаянна вяртаецца пытанне эвідэнцыі сяброў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання? Імкненне фармалізаваць структуры БДА, увесці легітымацыі, збіраць ад сяброў складчыны, а такая тэндэнцыя пагля-далася ў частк і дэлегатаў, удумаўшыся ў яго, назбаўлена рацыянальных падстаў. Ажыццяўленне такой канцэпцыі неазбежна вядзе да разбудовы бюракратычна-штатнага апарату, выдаткі на які вырастаюць у тоўстыя мільёны — такіх грошай зараз няма, не будзе іх і ў будучыні (прынамсі той найбліжэйшай). Па-другое, партыі, набудаваныя на такім прынцыпе, даказалі ўжо сваю „жыццяздольнасць" — на ступенях штатнай іерархіі затрачваецца найбольш пажаданая вартасць: персанальная адказнасць за робленае і гаворанае. Які тады адказ на пастаўленае пытанне? — Па-мойму, ён такі: частка сяброў Аб'яднання ўсё яшчэ думае катэгорыямі ПАРП, не ўсведамляючы іх упадку. Не без значэння тут і той факт, што на працягу двух гадоў дзейнасці БДА не дабілася адчувальнага выбарчага поспеху. Няма поспеху, значыць нешта Аб'яднанне дрэнна задумане. Жыццё, аднак, падказвае іншую праўду — поспех патрабуе цярплівасці. Малады палітычны рух перш-наперш мусіць або неракаваць да сябе грамадскасць, або, як у выпадку БДА, нават і выхаваць сваю базу. Усё, што паспех зробленае — найчасцей бесперспектыўнае, нібы тая перамога ў самаўрадавых выбарах, якая ў практыцы ёю не аказалася. Ці абраная дзеячамі БДА элітарная канцэпцыя ажыццяўлення беларускай палітыкі на Беласточчыне слушная? Вопыт заходніх дэмакратыяў, дзе палітыкі дзесяці-годдзямі выпрацоўвалі такую менавіта канцэпцыю, падказвае, што так.Праца ў Беларускім дэмакратычным аб'яднанні хутчэй за ўсё спрычыняе жыццёвыя камплікацыі, чымсьці матэрыяльны прыбытак. Хто ад удзельніцтва ў Аб'яднанні спадзяецца асабістых карысцяў, той не вытрывае ў яго шэрагах, адыйдзе. Адсюль бярэцца ўся яго элітарнасць. Няшмат сяброў, але ўсе затое адданыя справе.

Апошнім пунктам парадку Кангрэса былі выбары новых уладаў. Кангрэс паўстрымаўся ад выбару каардынатара Краёвай управы, што ў практыцы абазначае адсутнасць у другой кадэнцыі і самое Управы. Адзіным кандыдатам на старшыню Галоўнай рады быў Алег Латышонак, якога дэлегаты і выбралі новым лідэрам Аб'яднання. Кангрэс выбраў яшчэ Галоўную раду лікам у 11 асоб і трохасабовую Рэвізійную камісію. Першым палітычным крокам новага лідэра БДА, калі не лічыць кароткага экспазе, была прапанова прызнаць Сакрату Яновічу ганаровае старшынства з правам удзелу ў сесіях Галоўнай рады. Дэлегаты гэту прапанову падтрымалі. Гэты акцэнт і закончыў працу другога Кангрэса Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**



*Сакрат Яновіч віншуе Алега Латышонка з выбарам на старшыню Галоўнай рады БДА*

# БІБЛІЯТЭКА Ў НАРВЕ

У бібліятэцы ў Нарве маю ўвагу прыцягнулі ўсе нумары „Маладосці" за 1991 год, якія ляжалі на відным месцы. Апошнімі гадамі, калі пансавауся абмен друкаваным словам між Польшчаю і Беларуссю, такога няма нават у нас у рэдакцыі, падумаў я з зайздрасцю.

— У нас ёсць і іншыя беларускія часопісы, — кажа мне дырэктар гмiннай бібліятэкі ў Нарве Аля Сёткоўская, — „Звязда", „Голас Радзімы", „Беларусь", „Вясёлка". Можа што падкажаце, каб яшчэ для дзяцей выпісаць.

Нараўскай бібліятэцы падпарадкаваныя два філіялы: у Ласінцы і Трасцянцы, ды дванаццаць бібліятэчных пунктаў, якія, на жаль, будуць ліквідаваны, акрамя тых мясцовасцяў, дзе ўтрымоўваць іх захочуць самі вяскоўцы (салэцкія рады). Пра фінансавае становішча бібліятэкі сведчыць факт, што ў мінулым годзе на цэлую гміну купілі ўсяго пяцьсот кніжак. Гэта роўна на тысячу менш, чымсьці ў папярэднім годзе.

— Не толькі ў нас такое дзеецца, — кажа пані Аля, — так яно паўсюль. Як толькі трэба на што грошай, дык забіраюць ад культуры. Толькі як доўга можна так рабіць? Можа ў гэтым годзе нешта зменіцца?

Нараўская бібліятэка ў адным будынку — новым, вялікім — з мясцовым асяродкам культуры. Месца хапае для абедзвюх устаноў — працуе тут усяго дзве асобы (калі не лічыць тэхнічкі і апальшчыка, які абагравае заадно і тутэйшую ветэрынарыю): апрача Алі Сёткоўскай, яшчэ кіраўнік асяродка культуры Ірэна Шастай. Жанчыны смяюцца: ёсць кіраўніцтва, толькі няма працаўнікоў, усё роўна, бы армія з адных афіцэраў.

Сёння ў бібліятэцы ў Нарве 674 зарэгістраваныя чытачы. Гэта нямала як на паўтаратысячную мясцовасць. Найчасцей за кніжкамі прыходзяць вучні і старэйшыя людзі. Іх густы перад усім трэба браць пад увагу, купляючы новыя кніжкі, калі не хапае на ўсё грошай.

— Адкуль нам дастаць больш беларускіх кніжак, — пытаецца Аля Сёткоўская. — Тыя, што ёсць, змяшчаюцца на некалькіх паліцах усяго. Ды і з іх частку трэба было б ужо выкінуць, бо яны даўно страцілі актуальнасць. Раней можна было набыць нешта вартаснае ў кнігарні на вуліцы Кілінскага ў Беластоку, але цяпер там ужо амаль зусім няма беларускіх выданняў.

І яшчэ адну просьбу выказала дырэктар гміннай бібліятэкі ў Нарве: ці не мог бы хто падарыць бібліятэцы партрэты беларускіх пісьменнікаў — такія, каб на сцяну можна было павесіць. Польскія вісяць, а беларускіх нідзе не маглі знайсці. Яксьці так нягожа — лічыць дырэктар Аля Сёткоўская.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**КНІЖКІ,**
**якія можна купіць у ГП БГКТ**

Я. Чыквін. Іду. 1969, 88 с., 1000 зл.
Ул. Гайдук. Ракіта. 1971, 31 с., 1000 зл.
Я. Чыквін. Неспакой. 1977, 54 с., 1000 зл.
З. Сачко. Пошукі. 1982, 38 с., 1000 зл.
А. Барскі. Блізкасць далёкага. 1983, 109 с.,1000 зл.
М. Шаховіч. Вада ў рэшаце. 109 с., 1000 зл.
В. Петручук. Пожня. 1987, 235 с., 1000 зл.
Ю. Зубрыцкі. Рознагоддзе. 1989, 56 с., 2000 зл.
M. Hajduk. Cisz. 24 с., 3000 зл.
A. Barszczewski. Białoruska obrzędowość i folklor Wschodniej Białostocczyzny. 1990, 175 с., 20000 зл.
М. Ермаловіч. Старажытная Беларусь. 1990, 366 с., 10000 зл.
Ул. Гайдук. Блакітны вырай. 1990, 32 с., 5000 зл.
З. Сачко. Над днём похіляна. 1991, 54 с., 5000 зл.
В. Швед. Родны схоў. 1991, 62 с., 5000 зл.
В. Швед. Вясёлка. 1991, 192 с., 15000
Г. Валкавыцкі. Віры. 1991, 184 с., 20000 зл.
М. Ігнатюк. Мая зямля (песні). 1991, 28 с., 5000 зл.




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928**

— 55 —

Трэба дабавіць, што ўсе арыштаваныя, за выключэннем Якубецкага і Пракулевіча, адносіліся да польскага ўрада з асаблівай варожасцю. Адасабленне гэтых людзей ізалявала элементы найбольш запальныя і незраўнаважаныя. Арышт і вывазка прычыніліся ў значнай ступені да аздараўлення ўнутраных адносін у „Вільнацбелкоме". Была праведзена рэарганізацыя камітэта і ўся дзейнасць скіравалася на больш умеркаваны шлях.

Дня 20 лютага 1922 года Віленскі Сейм прыняў пры 96 галасах „за" і шасці галасах „устрымаўся" пастанову адносна далучэння Вільні і віленскай зямлі да Польшчы. Вось змест гэтай пастановы.

„У імя ўсемагутнага Бога, Мы, Сейм у Вільні, вольнай і поўнай воляй насельніцтва віленскай зямлі выбраны, маючы поўную праву на акрэсленне лёсаў гэтай зямлі, памятаючы аб многавяковых повязях, якія актамі ў Гародле і Любліне, а таксама пастановамі Канстытуцыі маёвай з 1791 года былі ўкарапаваны, землі нашы з Польшчай на падставе дабравольных дагавораў у адно спалучалі і на кроў нашых бацькоў, ахвярна пралітую ў змаганнях народу за свабоду пасля няшчасных раздзелаў Айчыны, ушаноўваючы мужнасць і ахвярнасць польскага жаўнера, сына гэтай зямлі Юзэфа Пілсудскага, гераічны чын генерала Жалігоўскага — згодна з правам народа на самаакрэсленне, ад імя жыхараў гэтай зямлі, яе жывых і будучых пакаленняў, маючы на мэце забеспячэнне свабоды і ўсебаковага духоўнага і матэрыяльнага развіцця — на пасяджэнні 20 лютага 1922 года пастанаўляем:

1. Усе повязі праўнадзяржаўныя, накінутыя нам сілай з боку рускай дзяржавы, лічым беспаваротна парванымі і неіснуючымі, таксама адмаўляем Расіі права на ўмяшанне ў справе віленскай зямлі.
2. Праўнадзяржаўныя прэтэнзіі да віленскай зямлі, аб'яўленыя Літоўскай Рэспублікай, якія праявіліся ў літоўска-савецкім трактаце ад 12 ліпеня 1920 года, як і ўсе іншыя, адкідваем і назаўсёды анулюем.
3. Урачыста сцвярджаем, што не прызнаем ніякіх пастаноў аднось нашай зямлі, ды ў справах яе ўнутраных структур, прынятых нязгодна з нашай воляй чужымі чыннікамі.
4. Віленская зямля з'яўляецца без якіх-небудзь варункаў і абумоўленняў неразздзельнай часткай Рэчыпаспалітай Польскай.
5. Рэчыпаспалітая Польская мае поўнае і выключнае права на дзяржаўнае панаванне над віленскай зямлёй.
6. Аднаведныя органы Польскай Рэчыпаспалітай маюць адзінае і выключнае права на акрэсліванне правоў і ўладкаванняў віленскай зямлі, згодна канстытуцыі Рэчыпаспалітай ад 17 сакавіка 1921 года.
7. Заклікаем Заканадаўчы Сейм і Урад Рэчыпаспалітай Польскай да хуткага выканання законаў і абавязкаў, вынікаючых з рацыі прыналежнасці віленскай зямлі да Рэчыпаспалітай Польскай".

Дня 24 сакавіка 1922 г. Заканадаўчы Сейм Рэчыпаспалітай Польскай аднагалосна зацвердзіў пастанову Віленскага Сейма, дзякуючы чаму праблема дзяржаўнай прыналежнасці паўночна-ўсходніх зямель была вырашана. Цэнтральная Літва перастала існаваць.

Згодна пастанове Заканадаўчага Сейма Рэчыпаспалітай Польскай быў паклікаңы ў сакавіку 1922 года дэлегат урада П. Раман, які меў выконваць адміністрацыйную ўладу II інстанцыі на віленскай зямлі.

*(Працяг будзе)*

# У АСВЕТНАЙ КАМІСІІ РБА

3 студзеня 1992 года ў Беластоку адбылося пасяджэнне камісіі па справах кантактаў з асветнымі ўладамі, якую курыруе Рада беларускіх арганізацыяў. Ідэя камісіі ўзнікла на канферэнцыі школьнага асяроддзя, якая адбылася 14 чэрвеня 1991 г. у Бельску-Падляшскім з ініцыятывы беларускіх арганізацыяў. Удзельнікі канферэнцыі акрэслілі мэты дзеяння камісіі і даручылі Віктару Стахвюку стварыць яе згодна з воляй прысутных.

У Камісіі дзейнічаюць: Яўгенія Васілюк — дырэктар школы ў Орлі, Васіль Дамброўскі — дырэктар Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, Славамір Іванюк — старшыня тэрытарыяльнай рады БДА ў Бельску, Алег Латышонак — зараз старшыня Галоўнай рады БДА, Зінаіда Навіцкая — дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску, Андрэй Сцепанюк — настаўнік беларускай мовы, Барбара Кучынская — прэзідэнт БАС, Віктар Стахвюк — упаўнамочаны старшыня камісіі.

Пад час пасяджэння была складзена справаздача аб дзейнасці, між іншым, аб падпісанні дамоў з асветна-адукацыйнымі ўладамі Беларусі аб вучобе беларускай моладзі з Беласточчыны ў вышэйшых навучальных установах, а таксама аб рэалізацыі пастулатаў школьных асяроддзяў у справе кадравых змен. Выявілася таксама адмоўная тэндэнцыя, якая супярэчыць духу дэмакратычных пераменаў у краіне ў дзеяннях асветных улад нашага рэгіёна пры змене дырэктараў школ.

У справе вучобы нашай моладзі ў вышэйшых навучальных установах на Беларусі былі прыняты наступныя крытэрыі кваліфікацыі кандыдатаў:

— сярэдняя ацэнка — 3,7

— ацэнка па асноўным прадмеце, калі ён адзін — пяць (5), а калі іх больш — чатыры (4)

— моладзь, якая не вывучае беларускую мову, абавязана здаць экзамен па мове перад матуральнай камісіяй аднаго з беларускіх ліцэяў,

— моладзь павінна разумець сэнс сваёй вучобы ў Беларусі і спадзяванні, з гэтым звязаныя, ад беларусаў Беласточчыны.

Камісія таксама намеціла план прыёму нашай моладзі ў навучальныя ўстановы Беларусі. З увагі на тое, што ўзрасло зацікаўленне вучобай на Бацькаўшчыне, якое перавышае мінулагоднія нагадненні з міністэрствамі, камісія рыхтуецца да перамоў з адноснымі ўладамі Рэспублікі Беларусь.

**ВІКТАР СТАХВЮК**

# АДКРЫТЫ ЛІСТ КУРАТАРУ

Беласток, 1992.01.23

**мгр Пётр Літэрмус**
**Куратар асветы і выхавання ў Беластоку**

Камісія па справах пастаянных кантактаў з асветнымі ўладамі, якая дзейнічае пры Радзе беларускіх арганізацый, выказвае рашучы пратэст супраць недэмакратычных метадаў, прымяняемых Дэлегатурай КАіВ у Бельску-Падляшскім пры выбары дырэктараў школ усіх ступеней на нашай тэрыторыі.

Хочам мы прыгадаць, што ўжо сам рэгламент правядзення конкурсаў на дырэктараў змяшчае ў сабе механізмы, якія ствараюць магчымасць адвольнай маніпуляцыі і выбар дырэктара згодна жаданню асветных улад. Такую магчымасць стварае склад камісіі: чатырох, залежных ад улад, прадстаўнікоў у адносінах да чатырох прадстаўнікоў асяроддзя. Пад час роўнага раздзелу галасоў вырашае дадатковы голас старшыні камісіі — прадстаўніка ўлад.

Хочам мы таксама прыгадаць, што 14 чэрвеня 1991 года на супольна арганізаванай школьнай канферэнцыі з гмінаў, населеных у большасці беларусамі, узгоднена патрэба сумеснага вырашэння асветных праблемаў з асаблівай увагай да кадравых пытанняў. Была гэта доўгачаканая праява супольнага зразумення і супрацоўніцтва. На жаль, сёння асветныя ўлады ігнаруюць вышэй успомненае грамадскае пагадненне, парушаючы гэтым самым асноўныя правы дэмакратыі, а таксама права беларускай нацыянальнай меншасці на ўдзел у фармаванні аблічча асветы шляхам правільна ведзенай кадравай палітыкі.

Яркім прыкладам парушэння правілаў сужыцця між нашымі грамадскасцямі было правядзенне конкурсу на дырэктара Агульна-адукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім без удзелу прадстаўніка створанай з гэтай мэтай нашай Камісіі, якая дзейнічае пры Радзе беларускіх арганізацый. Тым больш, што конкурс адбываўся пасля эксперыменту ў Орлі, дзе ў выніку нашай інтэрвенцыі ў конкурсную камісію быў уключаны наш прадстаўнік, што стварыла магчымасць выбраць дырэктара згодна волі асяроддзя.

У абсалютнай супярэчнасці з грамадскім дабром нашага рэгіёна знаходзіцца пісьмо дырэктара Дэлегатуры КАіВ у Бельску-Падляшскім ад дня 1992.01.02 у справе конкурсаў на дырэктараў і тэрмінаў іх правядзення, якое не прадугледжвае ўдзелу ў конкурсах прадстаўніка нашай Камісіі — прадстаўніка беларускіх арганізацый.

У сувязі з узнікшай сітуацыяй, дамагаемся:

1. Адмяніць тэрміны конкурсаў з мэтай правесці аналіз патрэб асяроддзя.

2. Прызваць у склад конкурсных камісій прадстаўніка нашай Камісіі.

3. Стварыць пасаду агульнага візітатара па справах школ у асяроддзі беларускай меншасці.

**Старшыня камісіі**
**Віктар Стахвюк**

# АХВЯРЫ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў ВЁСКАХ: ВОЙШКІ І КАНЮКІ

**( Працяг са стар. 3 )**

**Матвяюк** (46 год) ад супроцьтанкавай міны, якую якраз нейтралізавалі савецкія сапёры.

У 1944 годзе НКВД арыштаваў **Яна Ляшэўскага** (каля 50 год), які пад час нямецкай акупацыі быў солтысам. Абвінавацілі яго ў актыўным супрацоўніцтве з немцамі.

КАНЮКІ

У гады 1940-41 у Чырвоную Армію былі прызваны і ніколі ўжо дадому не вярнуліся: **Сяргей Нікалаюк** (19 год), **Афанасій Васілюк** (20 год) і **Панцеляймон Красоўскі** (29 год).

У жніўні 1941 г. немцы арыштавалі **Арафея Яканюка** (33 гады) і **Серафіма Паўлючука** (33 гады). Былі яны расстраляны ў лесе ля вёскі Ваські, гміна Нарва. У 1943 г. у вёсцы быў застрэлены **Макар Шумялюк** (36 год).

**Пётр Нікалаюк** (19 год) і **Анна Тамашук** (20 год) былі вывезены ў 1942 годзе на прымусовыя работы ў Нямеччыну, адкуль ужо не вярнуліся.

26 ліпеня 1944 года ў вёсцы Трычоўка немцы, у помсце за смерць двух сваіх сувязных, жыўцом спалілі: **Васіля Андрэюка** (19 год), **Кірыла Ігнацюка** (37 год), **Рыгора Карчэўскага** (52 гады), **Яна Наўмюка** (50 год) і **Пятра Наўмюка** (39 год).

**ЛЯВОН ФЕДАРУК**

( На аснове інфармацыі Івана Рудэчкі з Войшак і Ільі Ігнацюка з Канюк).

# БЕЛАРУСІЯНА НА КАРЦЕ БЕЛАСТОКА



На здымку фрагмент вуліцы **Кобрынскай** у Беластоку. Прабягае яна ад вул. Гетманскай да вул. Праменнай. Яе даўжыня — 500 метраў. Пры ёй 23 дамы — пераважна мураваныя прыгожыя асабнякі. Пры гэтай вуліцы дзейнічае пазычальня багажных самахадовых прычэпаў.

Фота: **Янкі Целушэцкага**

# ЮРЫЙ АСТРОЎСКІ

**(29.VI.1925 г. Менск — 31.XII.1991 г. Гродна)**

Спынілася сэрца акадэміка, дырэктара Інстытута біяхіміі Акадэміі Навук Беларусі, прыхільніка беларускага адраджэння, члена Гарадзенскай рады Таварыства беларускай мовы

**Юрыя Міхайлавіча Астроўскага.**

Гэта быў магутны **талент**, развіццё якога не маглі спыніць перашкоды сталіністаў і кансерватараў. Гэта быў **вучоны**, які стварыў арыгінальны навуковы кірунак у галіне біяхіміі, гарадзенскую біяхімічную школу (звыш 70 дактароў і кандыдатаў навук). Гэта быў **настаўнік**, які ў цяжкія ваенныя гады пачаў сваю педагагічную справу ў Слонімскай школе і больш як чвэрць стагоддзя выхоўваў моладзь у Віцебскім і Гарадзенскім медінстытутах. Гэта быў **грамадзянін**, які змагаўся за дэмакратызацыю нашага жыцця, за праўду ў асвятленні Чарнобыльскай бяды, за напярэджанне новых экалагічных катастроф. Гэта быў сапраўдны **БЕЛАРУС**, які захаваў як святыню беларускую мову і асабістым прыкладам змагаўся за адраджэнне беларускай гісторыі і культуры, словам і справай выхоўваў нацыянальнае сумленне ў суайчыннікаў.

Памяць пра яго назаўжды будзе захавана на Гарадзеншчыне, на ўсёй нашай роднай зямлі.

**А. Пяткевіч, А. Майсяёнак**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК—ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК І РЫБКІ

Аднойчы Пік-Пік вырашыла прагуляцца па кватэры. І раптам у Веранічкіным пакойчыку яна заўважыла шкляную празрыстую скрыню. Скрыня стаяла на стале, а над ёй гарэла лямпачка. А ўнутры рухаліся нейкія жывыя рознакаляровыя істоты.

— Гэта яшчэ што такое?!! — абурылася мышка Пік-Пік. — Што за навіна ў МАЁЙ кватэры?!

Залезла мышка на стол бліжэй да скрыні, разгледзела новых жыхароў.
— Яны ж ядуць! — ахнула мышка. — Вунь як ратамі чмякаюць! Ні на хвілю не перапыняюцца! — і мышка злосна забубніла кулачком па шкле. — Эй, вы! Як вас там! У гэтай хаце ўся ежа — мая! А ну частуйце мяне, а то сама забяру!

Але істоты павольна праплывалі пад самым мышчыным носам і нешта жавалі, жавалі, жавалі. А адна пахабніца з вялікімі пукатымі вачыма спынілася перад мышкай, пазіраючы ёй проста ў вочы, нешта ела, хапала грыбастым ротам!

(Працяг на стар. 10 )



*Дзяўчынка Веранічка з татам.* **Фота Л. Шніп.**

## ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС У БЕЛЬСКУ

***

У мінулым годзе ўвесь свет ушаноўваў сотую гадавіну з дня нараджэння вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча.

Максіму Багдановічу прысвяціла на гэты раз свой штогадовы дэкламатарскі конкурс для школьнікаў Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Элімінацыі праводзіліся ў школах, раёнах, каб найлепшыя выканаўцы маглі выступіць на цэнтральным аглядзе ў Беластоку.

14 студзеня гэтага года такі раённы дэкламатарскі конкурс праводзіўся ў Бельску, у мясцовым клубе БГКТ. Узялі ў ім удзел вучні з Дубяжына, Нурца, Храбалоў, Рыбалаў і Бельска. Удзельнікаў конкурсу рыхтавалі настаўнікі: Яўгенія Таранта (Дубяжын), Варвара Шурбак (Нурэц), Ірэна Ефімюк (Храбалы), Лідзія Смалеўская (Рыбалы) ды Міраслава Маркевіч, Раіса Ваўранюк, Тамара Русачык і Яраслаў Падолец (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску). З вучнямі з Рыбалаў прыехаў Янка Мордань.

Усе ўдзельнікі агляду выступілі вельмі добра, цікава інтэрпрэтавалі падабраныя апекунамі творы. Аднак, у Максіма Багдановіча не так і лёгка знайсці матэрыял для дэкламацыі вучню пачатковай школы. Часамі якраз паяўляўся такі дысананс паміж творам і выканаўцам, як напр. „Эмігранцкая песня", якую чытае вучань пятага класа. Але наогул узровень бельскага раённага конкурсу трэба ацаніць высока. Варта падкрэсліць, што ў дзяцей было добрае беларускае вымаўленне.

Камісія ў складзе: Анна Бжазоўская, Вера Рышчук і ніжэй падпісаны як старшыня — узнагародзіла і, тым самым, накіравала на цэнтральны агляд наступных вучняў:

( Працяг на стар. 10 )



*Узнагароджаныя ў Бельску малодшыя ўдзельнікі дэкламатарскага конкурсу.*

**Фота М. Ваўранюка**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Віктар Шніп

### ДЗЕД МЯДЗВЕДЗЬ

Дзед мядзведзь
Дамоў
Ідзе.
А за ім
Услед
Гудзе
Пчолаў
Цэлы карагод.
Дзед нясе ў калодзе
Мёд.
Захварэў
Маленькі ўнук —
Доктар слухаў, —
Сам барсук.
Мёд малому прыпісаў.
І прыходзіла
Ліса:
— Я ўсё ж вылечу хутчэй,
Прынясі,
Мядзведзь,
Курэй.
— Ах ты,
Рыжая ліса!
Мёд жа доктар прыпісаў!
Дзед нясе
Унуку мёд.
Следам
Пчолаў карагод.

### МЫШКА, МЫШКА, ДЗЕ БЫЛА?

— Мышка, мышка, дзе была?
— Была ў пана караля.
— Што рабіла? — Лыжкі мыла.
— А што далі? — Кавал сала.
— Дзе паклала?— Пад лаўкаю.
— Чым накрыла? — Халяўкаю.
— Дзе падзела? — Кошка з'ела.

### ГУШКІ, ГУШКІ, ГУШКІ

Гушкі, гушкі, гушкі,
Прыляцелі птушкі.
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Боты паскідалі,
Кругом палятаці.
Сталі сакатаці.
Чаго птушкам даці?
Прынясу ім жыта,
Будуць птушкі сыты.
Пасыплю гароху —
Хай ядуць патроху.
Ды насыплю грэчкі —
Хай нясуць яечкі.



### АПСІК, АПСІК, КАТОЧАК

Апсік, апсік, каточак,
Не хадзі ты ў садочак,
І не тапчы кветачак,
І не будзі дзетачак.

Няхай кветачкі цвітуць,
Няхай дзетачкі заснуць.
Люлі, люлі, дзеткі, спаць,
А я буду калыхаць.

# ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС У БЕЛЬСКУ

( Працяг са стар. 9 )

— сярод малодшых удзельнікаў (II-V класы):

I месца: Кася Сегень (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску);
II месца: Івона Хмур (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску),
Янна Кулачэўская (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску);
III месца: Марта Аляксеюк (Храбалы),
Эва Вакулеўская (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску) — выступіла ў суправаджэнні сяброў;

— у катэгорыі старэйшых выканаўцаў (VI-VIII класы):

I месца: Анна Парфенюк (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску),
Альжбета Ваўранюк (Храбалы);
II месца: Андрэй Купрыяновіч (Дубяжын),
Эльвіра Іванюк (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску);
III месца: Анэта Врублеўская (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску),
Кася Коршак (Храбалы);

вылучаныя: Аліна Аўрамюк (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску),
Агнешка Сахарчук (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску).

Камісія за добрую дэкламацыю вылучыла таксама Хрысціну Галубоўскую і Янку Апалінскага з Рыбалаў. Але паколькі яны чыталі творы не на словы Багдановіча, спатрэбілася кансультацыя з арганізатарамі конкурсу, ці не парушылі яны правілаў. У выніку гэтых размоў згаданыя вучні з Рыбалаў таксама апынуліся на цэнтральным дэкламатарскім аглядзе ў Беластоку.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**




*Новакорніна, 1992.01.9*

**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць табе вучні чацвёртага класа Пачатковай школы ў Новакорніне. На ўроку беларускай мовы мы вучыліся пісаць ліст, і адрасатам рашылі выбраць цябе, „Зорка". Мы хочам коратка расказаць пра наш клас і нашу школу. Наш клас невялікі. У ім толькі пяць вучняў. Мы вучымся разам з пятым класам. Зал, у якім мы праводзім урокі, прыгожа прыбраны. Ёсць нават „Этнаграфічнае акенца". Мы дбаем пра чысціню і парадак у сваім класе.

Школа наша новая, двухпавярховая. Ёсць у ёй многа залаў, святліца, бібліятэка.

Дарагая „Зорка"! Запрашаем да нас у госці!

**Вучні чацвёртага класа**

**Васіль Жуковіч**

**У ЗІМОВЫМ ЛЕСЕ**

Пад снегам — дарога,
на снезе — лыжня.
У лесе зімовым
стаіць цішыня.

Кусточкі і дрэвы
заснулі даўно,
і песень птушыных
зусім не чутно.

Пад хвояй старою
я горку знайшоў,
там цёпла пад снегам
сям'і мурашоў.

Мурашнік пад снегам
зімою пасціць,
вясной там работа
ізноў закіпіць.

Усё ад зімовых
абудзіцца сноў,
пачуюцца песні
птушыныя
зноў.



На здымку – вучні пятага класа з Навакорніна: Бася Асіпюк, Яраслаў Дзмітрук і Аркадзь Сіроцкі, чацвёртага – Аня Кіпель, Пётр Лаўрыновіч, Данель Пракопюк, Марк Пракопюк, Марк Лесяк і пані Барбара Мароз – іх выхаваўца.

# ПОШТА ЗОРКІ

Мяне завуць Бася Галёнка. Мне трынаццаць год. Вучуся ў сёмым класе, жыву ў вёсцы. Я вельмі люблю пісаць вершы, але я іх пішу на польскай мове. Я напісала ўжо семнаццаць вершаў. Мне асабіста яны вельмі спадабаліся, і хочацца ведаць, што іншыя пра мае вершы думаюць. Куды мне іх адправіць, каму паказаць?

Калі ласка, напішыце мне, што вы пра гэта думаеце, дапамажыце мне.

**Бася**

**„Зорка":** Нам таксама цікава пабачыць твае вершы. Калі твае літаратурныя спробы былі б цікавымі, абавязкова знойдзем месца на старонках „Зоркі". Вядома, „Ніва" — гэта тыднёвік на беларускай мове, і толькі на такой мове друкуюцца тут вершы і дарослых, выдатных паэтаў, і маладзенькіх пачаткоўцаў. Тут і я ставіла першыя літаратурныя крокі. У „Ніве" я знайшла апекуноў у асобах пісьменнікаў з беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". І ты, дарагая Бася, можаш нам прыслаць свае вершы, на той мове, на якой яны былі створаны. А, можа, спрабуеш нешта напісаць па-беларуску? Напішы спачатку нешта пра сваю школу, вёску, сяброў, прыроду... Усё гэта — і вельмі простае, і складанае, як у жыцці, так і ў паэзіі. Найважнейшае — сапраўды выказаць сябе можна толькі на родны мове, а нават найлепшы пераклад не перадасць праўды слова, яго самавітасці і смаку.

**Міра Лукша**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

( Працяг са стар. 9 )

— Ну, пачакай! — ворагі былі маленькія, таму мышка Пік-Пік пачувала сябе смелай і справядлівай. — Зараз я да цябе дабяруся! — і мышка высока падскочыла і ... ўвалілася ў ваду. — Ой-ёй-ёй! — закрычала Пік-Пік. — Не хачу, не хачу нічога, даставайце мяне адсюль!

Роцік мышкі напоўніўся вадой, і яна не змагла больш гаварыць, толькі булькала і малаціла лапкамі і хвастом па вадзе. На шчасце, у гэты час у пакой зайшла Веранічка. Яна дастала мышку і загарнула ў ручнік. Адплявала Пік-Пік ваду, трохі абсохла, і тут убачыла, што дзяўчынка корміць пражорлівых істот нейкім парашком. Ускочыла мышка, скінула ручнік і кінулася да Веранічкі. Зачарпнула мышка поўную лапку парашку, кінула ў рот і... цьфу, цьфу, цьфу, што за брыдота!..

А Веранічка засмяялася:

— Гэта ж ежа для маіх рыбак! Яе толькі рыбкі могуць спажываць!

Пабегла бедная мышка Пік-Пік у сваю норку, схавалася пад коўдрачку і падумала:

— Ну і неразумныя гэтыя рыбкі! Жывуць у мокрай вадзе, ядуць нейкі парашок!.. Не, цукерачкі — лепей!

І мышка заснула.

**Людміла Рублеўская**

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Замалюй палі азначаныя колцамі аранжавым алоўкам, трохкутнікам – светлазнялёным, рыскамі – цёмнасінім. Забаву прыслаў вам Андрэй Гаўрылюк.

# ВЕРСІІ ✵ КУР'ЁЗЫ ✵ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ-ЗДРАДНІКІ
(працяг)

Сташынскі выстраліў смяртэльны яд проста ў твар Рэбету. Той пахіснуўся і, нават не войкнуўшы, упаў трупам. Агент спакойна пакінуў месца злачынства.

Неўзабаве зрабілі анатаміраванне трупа. Яно паказала, што смерць наступіла ў выніку інфаркта сардэчнай мышцы.

З таго часу прайшлі два гады. Сташынскі атрымаў загад ліквідаваць Сцяпана Бандэру, нацыяналіста нумар адзін, які ўзначальваў антыкамуністычны рух на Украіне да 1947 года.

Афіцэры КДБ ведалі, што Бандэра мае пастаянную ахову. Ніколі не выходзіць з дому адзін. Таму ў спецлабараторыі ў Маскве сканструявалі двухствольны пісталет, з якога можна адным выстралам забіць адразу двух чалавек. Там жа зрабілі ключы да дому Бандэры ў Мюнхене.

Праз месяц Сташынскі надпільноўваў Бандэру ў гаражы. Ды сталася з ім невытлумачальнае. Мабыць, сумленне ў ім адазвалася. Цяжка было страляць у безабароннага чалавека, які, дарэчы, не ўчыніў яму нічога дрэннага. Агент павярнуў ад гаража назад і чым хутчэй уцёк. Па дарозе кінуў у раку зброю. Перапужаўся. Сваім супрацоўнікам заявіў, што ў выкананні задання перашкодзіла яму неспадзяванае паяўленне незнаёмага мужчыны, які таксама ішоў у гараж. Паломаны ключ ад кватэры Бандэры меў быць доказам на тое, што агент дзейнічаў у нервовай сітуацыі і збаяўся захопу знянацку.

Пасля няўдачнага замаху на жыццё украінскага эмігранта, Сташынскі паехаў у водпуск. Меў надзею, што ў тым часе хтосьці з яго калегаў ліквідуе Бандэру. Але калі вярнуўся з адпачынку, сам мусіў давесці справу да канца.

15 кастрычніка 1959 года Багдан асабліва назіраў за Бандэрай. Яму пашанцавала. Праследаваны ў той дзень сам прыехаў на машыне дадому. Агент рушыў за ім. Ахвяра нічога не здагадвалася. Калі Бандэра пачаў адмыкаць дзверы, Сташынскі паклікаў яго і тут жа выстраліў ядам у твар. Як пасля аказалася, усё было зроблена „чыста", гэта значыць, злачынца не аставіў па сабе ніякіх слядоў.

Савецкія ўлады ўзнагародзілі разведчыка ордэнам. З таго часу ён быў у авангардзе баявых спецгруп, якія дзейнічалі на Захадзе.

Невядома, колькі яшчэ людзей загінула б з рук Б. Сташынскага, калі б яго жыццёвы шлях не змяніўся. Прабываючы ў водпуску, ён закахаўся ў Інге Похль з Усходняй Германіі. Была гэта прыгажуня разумная, смелая і рэалістычна мыслячая. КДБ яе погляды не былі вядомы. Кіраўнікі мелі на ўвазе, што агенту гэты факт можа дапамагчы ў перыяд яго пабыўкі ў Берліне.

Аднак, неўзабаве КДБ змяніл свае меркаванні. Запрапанавалі агенту выконваць сакрэтную місію без удзелу Інге. Пра яе ён павінен быў забыць. Лепш для яго, каб ажаніўся з супрацоўніцай КДБ, якая дапамагала б яму ў нелегальнай дзейнасці.

Але Сташынскі не здаваўся. У яго думках была нямецкая дзяўчына. Ён нават прызнаўся ёй, нягледзячы на забарону, што з'яўляецца рускім грамадзянінам і агентам КДБ. У іх адносінах гэтае прызнанне пакуль што нічога не змяніла. У красавіку 1960 года ў Маскве яны пажаніліся. З таго моманту Інге пачала перавыхоўваць мужа, змяняць яго погляд на Краіну Саветаў і яе тайную палітыку за мяжой. Яна ўмела ўказвала на яўныя супярэчнасці паміж тым, што гаварылася і прапагандавалася, і тым, што яны бачылі ў рэальным жыцці. З часам Багдан пачаў усё больш пагаджацца з думкамі Інге. Неўзабаве яны мелі стаць бацькамі. Тады кіраўнікі КДБ зноў параілі пазбыцца дзіцяці, якое будзе перашкодай у іх далейшай дзейнасці. Інге адмовілася. Прапанавалі ёй аддаць дзіця ў адзін з найлепшых дамоў дзіцяці ў СССР, яна зноў не згадзілася.

Інге ўдалося наведаць сваіх бацькоў у Берліне. Тут яна 31 сакавіка 1961 года нарадзіла сына. Чакала прыезду Багдана. Наведаць жонку і дзіця Сташынскаму адмовілі.

Магчыма, што Багдана не выпусцілі б за граніцу. Але вось 8 жніўня Інге паведаміла пра смерць іх сына. 10 жніўня Сташынскі на ваенным самалёце паляцеў у Берлін на пахаванне. Аднак КДБ не пусціў яго аднаго. А якія ўжо меры былі прыняты ва Усходнім Берліне!

Але што было далей, можна будзе прачытаць у „Ніве" праз тыдзень.

Апрацаваў

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Чула я, што ты многім раіш і намагаеш развязаць праблемы. Я, пакуль раскажу пра свае праблемы, то пачну ад пачатку. Жыву на вёсцы. Мне 44 гады. Пяць гадоў таму назад памёр мой муж. Я засталася ўдавіцай. Муж хварэў усяго два гады, пакуль памёр, а быў старэйшы за мяне на сем гадоў. Выйшла я за яго замуж з вялікага кахання і без згоды бацькоў. Проста ўцякла да яго. А ён жа быў разведзены, з першай жонкай жыў два гады і была ў іх адна дачка. У мяне па ім засталося чацвёра дзяцей. Дзве старэйшыя дачкі выйшлі замуж, маюць свае сем'і і жывуць у горадзе. Я асталася з адной, ужо дарослай дачкою на гаспадарцы. Цяжка мне ўсім кіраваць, усё даглядаць, бо дзеці з горада тады прыязджаюць толькі, як маюць час. Пасля смерці мужа мне дапамагалі сваякі мужа з горада. Але калі яны даведаліся, што да мяне заляцаецца адзін мужчына, дык перасталі мне памагаць.

Ён таксама ўдавец, пенсіянер з суседняй вёскі, у яго дзве дарослыя дачкі, адна яшчэ дзеўка. Сустракаліся мы з ім кожны дзень, прыходзіў ён да мяне, я таксама часта хадзіла да яго. Мае бацькі жывуць у адной вёсцы са мною і яны таксама не дазваляюць, каб я з ім мела дзела. Бацька часта ганяе яго ад мяне, а я, нягледзячы на гэта, яго кахаю, хаця ён старэйшы за мяне на 15 гадоў. Я не звяртала ўвагі на пратэст сям'і мужа, сваіх дзяцей і бацькі. Думала, што калі ажэніцца мой сын і пойдзе жыць у горад, дык гэты чалавек прыйдзе да мяне і будзем жыць разам, ён будзе мне дапамагаць, а я заапякуюся яго 85-гадовай маці.

Але вось сталася так, што ў апошнія часы мой каханак пачаў вельмі шмат піць. Калі прыйдзе да мяне, то не раз здаецца мне, што толькі дзеля таго, каб я яму паставіла, ды каб легла з ім у пасцель. Адным словам, проста выкарыстоўвае мяне. Калі ж я заходжу да яго, дык то ён п'яны, то няма яго дома. Суседзі кажуць, што напэўна ён паехаў па піва. Памагаць мне стаў вельмі мала, раней больш намагаў. Цяпер жа, калі што наможа, дык надта дорага мне гэта каштуе.

Парай, Сэрцайка, што мне з ім зрабіць! Я ж яго далей кахаю. Дык ці лепш пацярпець і пачакаць, што будзе далей, ці паслаць яго з ветрам?..

Валя з Бельшчыны

Валя! Не ўсё з твайго пісьма тут зразумела. Ты кажаш, што засталася з адной, ужо дарослай дачкой на гаспадарцы. А дзе твой сын, які збіраецца ажаніцца? Ці ён не жыве з табою? Ці ён у вольныя хвіліны не можа дапамагчы маці, нават тады, калі жыве ў недалёкім гарадку?! Вядома, дзвюм жанчынам было б цяжка даць рады гаспадарцы, калі ты жывеш толькі з незамужняй дачкою.

Мужчынскія рукі на гаспадарцы патрэбны, гэта ведаюць усе. Але што з тых рук, калі ад гарэлкі галава не будзе кіраваць імі як трэба. Можа, твой каханак пачаў піць, бо жыццё яму абрыдла, а мо занадта прывык да цябе. Але ж ты гаворыш, што яго кахаеш. У такой сітуацыі прапаную, каб усё засталося па-старому. Пакахацца да цябе ён прыходзіць, а да работы табе і так хто іншы патрэбны. Узяць яго да сябе — дык значыць, узяць у хату яшчэ і яго дачку-дзеўку. Можа быць з усім гэтым больш клопатаў, як карысці. Тым больш, што ад піцця яго адвучыць будзе надта цяжка.

СЭРЦАЙКА

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніўся вельмі дзіўны сон. Быццам збірала я ў кошык яйкі. Яйкі, праўда, былі вялікія і прыгожыя. Усё роўна я сном занепакоена. Мо яйкі абазначаюць штосьці кепскае?

Галіна

Сніцца мне, што мы з мужам пайшлі ў лес за грыбамі. Было іх шмат. Спачатку мы збіралі баравікі, былі яны маладзенькія, цудоўныя. Пасля напалі на такія ж прыгожыя пячурыцы. Збіраем іх, і толькі мільгаюць іх белыя галоўкі. Раптам бачу: прыехала на аўтобусе цэлая экскурсія грыбнікоў. Ну, думаю, усё! Вычысцяць дарэшты. І раптам бачу, што ў лесе стаіць дом лесніка. Мы заходзім у гэты дом, а там у сярэдзіне быццам скансен нейкі. На ложку ляжыць карункавая белая капа і цэлая гара падушак у такіх жа белых карункавых навалачках. Нягледзячы на тое, што мы апынуліся ў хаце, мы прадаўжаем збіраць грыбы. Я ўбачыла, што ў куце пад самай столлю падвешаны кошык з грыбамі. Я пачынаю іх выбіраць адтуль, але яны нейкія спарахнелыя.

Ірэна

Галіна! З тваім сном усё будзе якраз наадварот, чым ты мяркуеш. Яйкі не абазначаюць кепскага, а чакае цябе вялікі прыбытак (можа гэта быць нават прырост сям'і), радасць, задавальненне.

Ірэна! Што датычыцца твайго сну, дык сведчыць ён аб тым, што з тваім каханнем да нейкага мужчыны могуць быць нейкія клопаты. Каханне гэтае, спачатку свежае і моцнае, як тыя першыя здаровыя грыбочкі, можа спарахнець, як тыя грыбы, якія ты знайшла ў кошыку, што вісеў у куце пад столлю. Можа гэта будзе датычыць твайго мужа, бо ты ж з ім збірала грыбы... Тая прыгожая пасцель, спадзяюся, не будзе прадвяшчаць для цябе хваробы.

АСТРОН




## З РЫСУ

### Рыс з гарошкам

На 2 шклянкі рысу трэба ўзяць 1 шклянку гарачай дробна нарэзанай варанай морквы, 1 шклянку зялёнага гарошку з кансерваваў баначкі, 4 лыжкі масла ці маргарыну, 1 сярэднюю пасечаную цыбуліну, 3 лыжачкі прыправы для супоў, насечаную зялёную пятрушку, соль, перац, бешамелевы соус.

1. Маргарын разагрэць на патэльні, дадаць цыбулю, смажыць на малым агні, тады ўсыпаць рыс, перамяшаць з тлушчам і цыбуляй, часта памешваючы, смажыць мінут 5 на невялікім агні. Паступова ўліваць у рыс 4 шклянкі вады з прыправай для супоў, дадаць солі і перцу. Увесь час мяшаць.

2. Рыс пералажыць у вогнетрывалы посуд, накрыць і пячы 30 мінут у гарачай духоўцы.

3. Перад падачай перамяшаць рыс з гарачымі гарошкам і морквай, а таксама з пасечанай зелянінай пятрушкі.

Падаваць з бешамелевым соусам і салатай.

Прапорцыя для 4 асоб.

### Запяканка

На 3 шклянкі варанага рысу трэба ўзяць 1/4 шклянкі мукі, 1/3 шклянкі пасечанай цыбулі, паўшклянкі дробна пасечанай зеляніны пятрушкі, 2 з паловай шклянкі салодкай смятанкі, 1 лыжачку солі, тлушч для змазвання посуду.

1. Усе прадукты, апрача смятанкі і тлушчу, перамяшаць, палажыць у вогнетрывалы посуд, змазаны тлушчам, заліць смятанкай.

2. Пячы мінут 30-40 у гарачай духоўцы.

Падаваць з салатай.

Прапорцыя для 4 асоб.

### Салодкі рыс

На паўшклянкі рысу трэба ўзяць 4 шклянкі малака, 5 лыжак маргарыну ці масла, паўшклянкі разынак, 2-3 збітыя яйкі, паўшклянкі цукру, паўлыжачкі ванільнага арамату, 1/4 лыжачкі солі, цынамон (карыцу) ці мушкаталовую галку (мускатны арэх) па смаку.

1. Рыс варыць у дзвюх шклянках малака мінут дзесяць. Павінен ён быць амаль мяккі.

2. У звараны рыс дадаць 4 лыжкі масла ці маргарыну і рэшту прадуктаў, перамяшаць. Пераліць у вогнетрывалы посуд, змазаны лыжкай масла ці маргарыну і пячы 45 мінут у гарачай духоўцы.

Падаваць гарачым ці халодным.

Прапорцыя для 3-6 асоб.

ГАСПАДЫНЯ

## ПЯШЧОТА

*Музыка Д. Яўтуховіча*
*Верш Л. Прапчака*

Недарэчная віна:
Я — адзін, і ты — адна.
Я без цябе — асірацелы быццам.
Бы асенняя смуга,
Захлыне мяне туга.
Я не магу чараў тваіх пазбыцца...

**ПРЫПЕЎ:**
Ты пяшчоту сваю зберажы.
Зачаруй мяне, заваражы,
Каб не ведала сэрца маё
Адзіноты,
Помніць пра цябе дазволь,
Я — твой сум,
А ты — мой боль,
Вочы твае — зоркамі пада мною.
Што б з каханнем не было,
Помню я тваё цяпло,
Мара мая — быць назаўсёды з табою.

**ПРЫПЕЎ:**
Ты пяшчоту сваю зберажы.
Зачаруй мяне, заваражы,
Каб не ведала сэрца маё
Адзіноты.
Горкіх слоў пра любоў не кажы,
Я — не твой, не з табой,
Я — чужы.
З небыцця, з забыцця
Ажыву я
Пяшчотай!
Помніць пра цябе дазволь, дазволь...







**Анонс:** На экраны ўваходзіць працяг кінаэпапеі „Смак хлеба". Новая серыя называецца „Запах мяса".




## СТАЛІН І ПУШКІН

Запрасіў неяк Сталін да сябе Пушкіна.
— Як жывецца, Аляксандр Сяргеевіч?
— Нічога, толькі кватэра аднапакаёвая, цесна.
— Не можа быць, класік і жыве ў аднапакаёўцы?
Сталін выклікаў старшыню Массавета і загадаў яму тэрміпова выдзеліць Пушкіну чатырохпакаёўку.
— А колькі вам плацяць за вершаваны радок? — цікавіцца далей.
— Рубель, таварыш Сталін.
— Сорам, класіку і ўсяго рубель.
— Ён выклікаў старшыню камітэта па друку і загадаў з сённяшняга дня плаціць Пушкіну па 20 рублёў за радок.
— Дзякуй, таварыш Сталін, больш у мяне просьбаў няма.
— Да пабачэння, жадаю поспехаў.
Калі Пушкін выйшаў, Сталін набраў тэлефонны нумар:
— Гэта Дантэс? І чаго ты марудзіш з гэтым Пушкіным?

## АНЕКДОТЫ

— Каханы мой, ты заўсёды са мною размаўляеш нейк загадкава, і ўсе твае словы мяне зусім не грэюць. Скажы бы мне хоць адно цёплае слова.
— Кажух! — з радасцю выкрыкнуў хлопец.

* * *

Едуць двое п'яных у машыне.
— Як пераедзем мост, паварочвай направа, — кажа адзін.
— А хіба не ты за рулём? — здзіўляецца другі.

* * *

Размаўляюць некалькі шатландцаў:
— А цікава, хто на самай справе выдумляе ўсе гэтыя дурныя анекдоты пра нас, шатландцаў?
Пытанне паставіла ўсіх у тупік. Нехта прапанаваў пазваніць у рэдакцыю гарадской газеты і даведацца там. У той жа момант раздаўся чыйсьці голас:
— А хто будзе плаціць за гэту размову па тэлефону?

* * *

— Два падвыпіўшыя сябры ўвальваюцца ў дом аднаго з іх.
— Гэта м-мой дом, — тлумачыць гаспадар. — Вось хол, тут вось сталовая. А гэт-та спальня. Бачыш ложак? Гэта мой ложак. А жанчына, што ў ложку — гэт-та мая жонка. А побач з ёй гэта я ляжу...

* * *

У тэатры ідзе рэпетыцыя. Маладая актрыса, якая іграе ролю пакінутай жанчыны, праводзіць сцэну так ненатуральна, што рэжысёр у адчаі крычыць:
— Паслухайце, у вас усё выглядае фальшыва! Пастаўце сябе на месца гераіні! Уявіце, што вас кінуў каханы. Што б вы зрабілі?
— Знайшла б іншага.

*Падборку зрабіў*
**Ясень**

## КАСЯК НА „С"



**Управа:** 1) умоўны знак, прыкмета, 2) рые і рохкае, 3) цеснае аб'яднанне, 4) на стадыёне пасля выстралу, 6) шкляная пасудзіна, 8) паказвае на гадзінніку, 10) трэці сярод дванаццаці, 13) адзінокае дзіця, 15) на ране, якая гоіцца, 17) стук, стук, стук, 19) парадная зала, для прыёму гасцей, 20) сухая трава.

**Улева:** 1) адны дзіркі, 2) у вайсковай форме, 3) злы дух, нячыстая сіла, 5) слізь з носа, 7) за Уралам, 9) мае яго кожны твор, 11) кусок падсмажанай саланіны, 12) пасьбіт мужчынскага полу, 14) зімой прылятае пад акно, 16) боязь, жах, трывога, перапуд, 18) калі перад дамавінай паставіць с, атрымаеш пругкую ніць, на якой можна зайграць, 21) гатунак прадукту (спорт згубіў п).

**„ ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 52. Управа:** краіна, клопат, крок, комін, крыга, канцэрт, капуста, квадра, крупы, кручок, кварц, капа. **Улева:** кроў, корань, Кракаў, капітан, Конга, косць, крывічы, кулак, кветка, крэда, кропка, крык.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Яанна Казлоўская і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

******************************************************************************





„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- luty – 12 000 zł.
- marzec – 15 000 zł.
- kwiecień – 12 000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.